НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 29 (818) 7 жніўня 2013 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады


## «Літоўская кухарка» вярнулася

Выйшла па-беларуску класічная кніга Вінцэнты Завадскай. Старонка 11.




## «Менш чым з $7000 тут няма чаго рабіць»



Машыны старэюць, а цэны на аўтарынку растуць. Старонка 5.

# Сомапіяр

57-кілаграмовы сом стаў мемам. Чаму пра яго ўзгадаў Лукашэнка? Усё пра самоў — **старонкі 3, 13**.

### Палітыка

## ФСБ падала ў суд на санаторый «Беларусь»

за неўсталяванне праслушкі. **Старонка 4.**



### Літаратура

## Зміцер Дашкевіч. Чарвяк

Нас вывелі ўтрох: мяне, Дзёню і высокага бледнатварага зэка... **Старонка 10.**




### Недалёкае

## Грутас

Леніны, Сталіны, Дзяржынскія звезеныя ў адзін парк. Піша Дзяніс Марціновіч. **Старонка 9.**



### Нашы школы

## Першы раз — у беларускамоўны клас

Куды пайсці, каб дзіця вучылася па-беларуску. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Беларусь пакуль не будзе забараняць украінскія цукеркі следам за Расіяй

Пра гэта паведаміў галоўны дзяржаўны санітарны доктар, намеснік міністра аховы здароўя Ігар Гаеўскі. Беларусь будзе правяраць прадукцыю «Рашэн» яшчэ тыдзень і тады прыме канчатковае рашэнне.

Забарону на пастаўкі ў Расію прадукцыі кампаніі «Рашэн» — аднаго з найбуйнейшых вытворцаў кандытарскіх вырабаў ва Украіне — увёў Расспажыўнагляд. Па словах кіраўніка Расспажыўнагляду Анішчанкі, эксперты за ўкраінскіх слодычаў нібыта паказала, што кандытарскія вырабы «не адпавядаюць заяўленым параметрам». У прыватнасці, расказаў Анішчанка, у шакаладзе малочным «Рашэн» быў знойдзены бензапірэн.

Цікава, што ўлады Казахстана, Малдовы, Таджыкістана ніякага бензапірэну ва ўкраінскай салодкай прадукцыі не выявілі. Наадварот, часамі рэгіструюцца нараканні на якасць расійскіх прадуктаў.

У мінулым Расспажыўнагляд не раз выкарыстоўваўся ў палітычных мэтах. Пад яго забарону траплялі беларускае малако, малдаўскія віны, грузінская баржомі — прадукцыя найлепшай якасці, лепшая за расійскія аналагі. Пасля ўрэгулявання канфліктаў прадукцыя адразу пераставала быць няякаснай і вярталася на расійскі рынак.

Адначасова са слодычамі Масква паставіла бар'еры на шляху імпарту ўкраінскіх труб. На думку назіральнікаў, цяпер Масква хоча сарваць падпісанне дамовы пра асацыяцыю між Украінай і Еўрасаюзам.

Пытанне, ці далучыцца Беларусь да Крамля ў ціску на Украіну, мае істотнае палітычнае значэнне.

**Мікола Бугай**

# Ігару Лучанку — 75

Заспець кампазітара дома амаль немагчыма: ён нон-стоп здымаецца для юбілейных ТВ-сюжэтаў і сустракаецца са шматлікім сябрамі.

«Я сябраваў з усімі былымі і цяперашнімі беларускімі і расійскімі палітыкамі. Пуцін, Мядзведзеў, ФСБ — хто вас цікавіць? — пытаецца кампазітар, толькі пачуўшы назву газеты.

**«Наша Ніва»: Вы працавалі з вершамі беларускіх класікаў ці адрозніваецца праца з класічным вершам ад працы з тэкстам сучасніка?**

**Ігар Лучанок:** Канечне, я ж працаваў з тэкстамі Купалы, Коласа, Броўкі. І нават Някляева. Някляеў — гэта мой добры сябар, ён выдатны паэт, а вось чамусьці пачаў прозу нейкую дурную пісаць, лепей бы далей вершы пісаў, яны ў яго выдатныя. Ён мой вучань, а я — ягоны настаўнік.

**«НН»: Існуе меркаванне, што музыка цяпер, з-за прыходу шоў-бізнэсу, страціла частку сваёй мастацкай каштоўнасці. Ці гэта, на вашу думку, так?**

**ІЛ:** Канечне, бо не варта прадавацца за грошы. Грошы — зло. Гэта нават не я так сказаў, гэта прэзідэнт так кажа. Я згодны, грошы — зло.

**«НН»: Калі б вас папрасілі абраць самы любімы ўласны твор, які б гэта быў?**

**ІЛ:** Кантата рок-опера «Гусляр» на вершы Янкі Купалы, «Мой родны кут», «Спадчына» і «Жураўлі на Палессе ляцяць». Вось, але ёсць і яшчэ. Напрыклад, мой «Майскі вальс» па радыё «разнеслі», але гэта ад зайздрасці. У нас увогуле краіна зайздрослівая.

На гэтым моманце Ігар Лучанок спыніў размову, бо мусіў сустракаць сяброў, якія прыйшлі яго віншаваць.

«Наша Ніва» таксама павіншавала кампазітара з юбілеем і пажадала яму моцнага здароўя і далейшых творчых поспехаў на славу Беларусі.

**Юрась Ускоў**


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

## Ігар Лучанок. Правілы жыцця

- У мяне няма мабільнага тэлефона і студыі.
- Бог даў мне мелодыю — ад таты, ад мамы. Камп'ютар жа нармальную мелодыю не створыць, у ім няма жыцця.
- Мне заўсёды было добра ў Мар'інай Горцы, каля рэчкі Цітаўкі. Мне падабаецца пакупацца, схадзіць у лес. Калі да мяне прыходзіць настальгія, я проста збіраюся і еду ў Мар'іну Горку. І песні там пішу лірычныя: «Алеся», «Вераніка», «Зачараваная мая».
- Найбольш цаню ў людзях прыстойнасць і талент.
- Сапраўдны кампазітар — той, хто можа напісаць і эстрадную песню, і сімфонію.
- Тата ў мяне граў на скрыпцы ў трупе Уладзіслава Галабка. Але нотаў не ведаў. Ён быў доктарам, франтавіком. Мама родам з Бабруйска. З каталіцкай, шляхецкай сям'і. А тата быў з сялян. Мама вельмі любіла вальсы Штраўса, а тата — «Паланэз» Агінскага. Яны абое хацелі, каб я стаў музыкантам.
- Самы сучасны кампазітар — гэта Бах.
- Для мяне Чэ Гевара — гэта правадыр. І я чэгеваравец. А для некаторых людзей ён тэрарыст.
- Я нарадзіўся ў 1938. Страшны час. Арышты, рэпрэсіі.
- У мяне была клінічная смерць. На тым свеце мне нават спадабалася. Запомніў фосфар, калідор, вяртанне...

### Фотафакт




**У Мінску аднавілі шыльду ў гонар Каліноўскага**

Памятная дошка з бюстам Каліноўскага і яго кароткай біяграфіяй вярнулася на будынак Цэнтра алімпійскага рэзерву па барацьбе імя Аляксандра Мядзведзя, што знаходзіцца на вуліцы Каліноўскага. Яна вісела ў перыяд ад 1988 да 1998, а потым яе скралі. Калі ж знайшлі, то ішла рэканструкцыя будынку. Пасля сканчэння рамонту — шыльду вярнулі.

## Сцісла

**Праваабаронцаў пакаралі вялікімі штрафамі**

Уладзімір Лабковіч і Таццяна Равяка асуджаны да штрафу ў памеры 3 мільёнаў рублёў. «Віна» заключалася ў тым, што праваабаронцы раздавалі ўлёткі ў падтрымку палітвязня Алеся Бяляцкага.

**Беларусы трапілі ў ДТЗ у Польшчы**

Мама і трохгадовая дачка ў цяжкім стане. Здарэнне адбылося каля Чанстаховы. Цяпер паліцыя шукае кіроўцу белага Iveco, які, магчыма, стаў вінаватым у аварыі

**Мінэканомікі: Законы аб нацыяналізацыі будуць прымацца ў кожным канкрэтным выпадку**

У іх будуць прапісаныя і ўмовы, і парадак нацыяналізацыі. Аб гэтым паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення інвестыцый Міністэрства эканомікі Сяргей Вайцяхоўскі.

**Колькасць вясковай моладзі скарацілася на траціну**

Амаль 83% беларускай моладзі складаюць гараджане, паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце. Колькасць сельскай моладзі за апошнія восем гадоў скарацілася на 166,7 тыс. чалавек (на 30%).

**Азаранка прайграла фінал**

Беларуская тэнісістка нечакана саступіла ў фінале турніру ў горадзе Карлсбад (Каліфорнія) аўстралійцы Саманце Стосур. Тым не менш, Азаранка паднялася на другі радок сусветнага рэйтынгу.

**У Расіі забілі святара-дысідэнта**

Паўлу Адэльгейму было 75 гадоў. Служыў у Пскоўскай епархіі. За савецкім часам адседзеў у турме за распаўсюд рэлігійнага самвыдата. Крытыкаваў сённяшні стан у РПЦ. Забойца выгукваў, што на такі крок яго наставіў сатана.

**ЛМ**

### Рэкамендуем

## Свінацыд

На нашых вачах знішчаецца неад'емная частка культуры беларусаў. Піша Сяргей Харэўскі.

**Чытайце на nn.by.**

### Самае чытанае на nn.by за 31 ліпеня — 6 жніўня

1. Хто жыве ў «гаргары Чыжа»? Бізнэсоўцы, спартоўцы і...
2. Лукашэнка і сом — вясёлыя карцінкі
3. Фіналістка «Міс Мінск-2013» рабіла пластычную аперацыю для павелічэння грудзей
4. Як студэнты ператварылі суполку Укантакце ў паспяховы бізнес-праект
5. «Прыгажосць» па-навагрудску — фотафакт
6. Труп былога распаўсюдніка наркотыкаў у Пінску знайшлі без нагі і рукі
7. Дэсантнік: «Гэта сцяг нашай радзімы. Я за яго служыў»
8. «Беларуськалій» прагназуе вялікія страты, акцыі «Уралкалія» абрынулі рынак
9. ФСБ падала ў суд на санаторый «Беларусь» за неўстаноўку расійскай праслушкі
10. Маці арыштаванага ксяндза Лазара: «Прычапіліся, адкуль грошы ўзяў»

# Жыць стала лепш, жыць стала весялей

«Палец сунеш, за палец рыба хапае! Я асабіста… 57 кілаграмаў **сома выцягнуў:** 57, 24 і 7 кілаграмаў. Трох самоў злавіў!»



Такую байку Аляксандр Лукашэнка расказаў на нарадзе па пытаннях паляўнічтва і рыбалкі. Прысутны на ёй віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы потым яшчэ пажартаваў: «З мяне ростам». «Ну не вагой жа», — адказаў Лукашэнка.

### Мемы

Сом адразу ж ператварыўся ў мем — інтэрнэт-афарызм. Яго сталі маляваць на «фотажабах», ствараць анекдоты.

Лукашэнку некаторая частка моладзі ўжо і ўспрымае найперш як аўтара мемаў.

Адным наканаванае доўгае жыццё, як, напрыклад, слову «Жыстачайшэ» (расійская энцыклапедыя інтэрнэт-мемаў «Луркмор'е» нават прысвяціла гэтаму слову вялікі артыкул) ці «Ушывыя блохі», «Ідзіот самы настаяшчы», «Нармальныя чалавечаскія яйцы». Іншыя ярка загараюцца і хутка знікаюць. Нядаўна, напрыклад, бурна рэагавалі на «пальцам пханую каўбасу», на загад разводзіць авечак, на «ротарная жатка — не абмалот» ці на «слуцкі пояс у кожны дом».

Зрэшты, калі глянуць на «57-кілаграмовага» без прызмы зубаскальства, то можна разгледзець некалькі іншых аспектаў.

### Сом супраць шчупака

Адразу ўсім кінулася ў вочы, што заява пра сома была зробленая праз колькі дзён пасля словаў Пуціна аб злоўленым шчупаку на 27 кілаграмаў.

Лукашэнка нярэдка ці ў адкрытую, ці карыстаючыся інтэрнэт-слэнгам, пад'ялдыкваў расійскае кіраўніцтва. Асабліва Мядзве-дзева. Які і рыдлёўку ў руках трымаць не ўмее, і толькі ведае, што «пальцамі ў тэлефон тыкаць».

Адны аналітыкі выказалі здагадку, што такім чынам Лукашэнка паспрабаваў паказаць сябе ў больш прывабным святле за Пуціна.

На сённяшні дзень у беларуска-расійскіх адносінах няма вялікіх




цэрцяў. Беларусь, напрыклад, моўчкі пракаўтнула чарговае абмежаванне суверэнітэту — рашэнне аб размяшчэнні на сваёй тэрыторыі расійскай авіябазы.

Тым не менш, пэўная напружанасць усё ж існуе. Апошняя гісторыя — агрэсіўны расійскі капітал уваходзіць у канфлікт з падкантрольнай дзяржаве беларускай эканомікай (развод «Уралкалія» з «Беларускай калійнай кампаніяй»). Расійскі бок таксама перыядычна выказвае незадаволенасць тым, што Беларусь недапастаўляе ў Расію бензін, насуперак міжурадаваму пагадненню аб пастаўках нафты, а гоніць паліва на Захад.

Зрэшты, не так даўно і каманду Лукашэнкі знялі з сочынскага аматарскага турніру.

### Беларусы ніколі не жылі так добра

Яшчэ словы пра сома можна трактаваць як частку вялікай прапагандысцкай схемы. Маўляў, у Беларусі ўсё добра не толькі з прамысловасцю, медыцынай, адукацыяй, спортам, але нават прырода пад мудрым кіраўніцтвам вярнула свае былыя багацці.

Сом — гэта рыбіна ў нейкай ступені міфічная. Старыя людзі могуць расказаць вам гісторыю, як у іх маладосці людзі лавілі здаравенных самоў, а пасля яны амаль зніклі з нашых рэк. Дык вось, у нас ізноў залаты век!

Кіраўнік краіны займаецца сама-(сома)піярам. Які ў выпадках, калі дае прачуханы чыноўнікам на селектарных нарадах, калі ладзіць рытуальныя прэс-канферэнцыі ці косіць траву ў Драздах.

Пры гэтым рэдка згадваецца, што беларускі дабрабыт пабудаваны на мільярдных уліваннях з боку Расіі, што паставіла краіну амаль у васальную залежнасць. ...Затое наш сом большы за іхняга шчупака.

**Зміцер Панкавец**

**Больш пра беларускага сома на старонцы 13.**

**Анекдоты пра сома**

* * *

57-кілаграмовы сом, злоўлены Лукашэнкам, папрасіў палітычны прытулак у Польшчы, там яго ўжо чакае пуцінскі шчупак.

* * *

Ходзяць чуткі, што ролю сома выконваў адзін з былых міністраў, якога былі злавілі на хабары.

* * *

Чым большая рыба, тым больш аўтарытарны рэжым.

* * *

Скончыцца ўсё тым, што Кім Чэн Ын зловіць сіняга кіта.

* * *

Уладзімір Шчукін і Аляксандр Саменка.

* * *

Віктар Януковіч злавіў мышпалёўку вагой 87 кілаграмаў.

* * *

А прэзідэнт перадаў сома ў музей беларускай дзяржаўнасці?

* * *

Талісманам мінскага чэмпіянату свету па хакеі стане не зубр, а сом.

* * *

Чыноўнікаў, што трапіліся на карупцыі, будуць аддаваць на корм самам.

* * *

Прыпяцкі сом заявіў, што ніякай дэвальвацыі беларускага рубля сёлета не будзе.

* * *

Сом быў такім, што ўся Беларусь год юшку ела.

* * *

Накарміў рыбінай усю краіну.

* * *

Шкада, што ў Беларусі кіты не водзяцца.

* * *

Кандыдатамі ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах будуць бабёр, сом і чупакабра. Прарасійскім кандыдатам — шчупак.

* * *

Сом быў такім вялікім, што не трапіў у кадр.

**Ліст у рэдакцыю**

## Лукашэнка, як заўсёды, не мае рацыі

Чаму ў «бездухоўнай» Еўропе **менш і забойстваў, і разводаў**, і крадзяжу, чым у нас, «духоўных»? І чаго дамагаўся Хрыстос — каб людзі ведалі праваслаўны малітоўнік або каб ставіліся адно да аднаго па-людску?

«Заходняя цывілізацыя перажывае найглыбейшы крызіс», — сказаў у Мінску патрыярхам Аляксандр Лукашэнка. «Лукашэнка, як заўсёды, не мае рацыі», — пракаментаваў наш чытач Анатоль. І ў падмацаванне сваіх словаў даслаў спасылку на артыкул Аляксандра Бавунова з расійскага часопіса «Слон».

Цяпер нам убіваюць у галовы: уся іх Еўропа — выраджаная і бездухоўная. А ў нас, можна падумаць, храмы поўныя...

Цэрквы ў Еўропе пустыя, можа, не таму, што ў людзей там нічога святога, а таму, што не трэба бегчы ў іх ратавацца ад свету. Святое, хрысціянскае яны раўнамерна разлілі, распырскалі па ўсёй сваёй цывілізацыі, насыцілі ім усё. Еўропа цяпер — гэта свет разлітага па ўсім жыцці, растворанага ў жыцці хрысціянства. Евангельскімі каштоўнасцямі прасякнутая прававая і бытавая культура. Еўропа, уласна, цяпер — уся царква і ёсць. Толькі чаго дамагаўся Хрыстос — каб людзі ведалі праваслаўны малітоўнік або каб ставіліся адно да аднаго па-людску? Каб бачылі ў іншым чалавеку сябе самога, то бок вобраз Божы?

Хрысціянская цывілізацыя — гэта калі шмат цэркваў, набітых народам, ці калі людзі не робяць іншаму таго, чаго не хацелі б для сябе?

У Таркоўскага ў «Рублёве» канкурэнт Рублёва, іканапісец Кірыл, спачатку, пакрыўдзіўшыся, сышоў, а потым вярнуўся ў манастыр. «Дрэнна, — кажа, — у свеце». Ну дык, можа, цэрквы ў нас поўныя, бо ў свеце дрэнна? Звонку — злосць, здрада, цемра, змрок, арда. А ўнутры — золата, свечкі, кнігі, музыка, аблічча праведных. Крыж, ізноў жа. І нават людзі часам дабрэюць.

Зноў жа, пройдземся па прыказаннях. Па «не забівай» мы на дзявятым месцы ў свеце з канца, гэта значыць, у першай дзясятцы па «забі», — гэта калі браць агульную колькасць. А калі на душу насельніцтва, то, вядома, лепей, але ўсё роўна — ззаду любой краіны Еўропы, якая загразла ў гейшлюбах. Гэта не лічачы абортаў і самагубстваў, па якіх мы першыя і дзясятыя ў свеце адпаведна, зноў жа наперадзе Еўропы.

Пра «не крадзі» — гэта мы самі ўсё ведаем, хоць індэкс успрымання карупцыі і суб'ектыўны, але і без індэкса бяром што дрэнна ляжыць. Пра «не пажадай аслаі вала блізкага свайго» — гэта мы на трэцім у свеце месцы па выкраданні аўтамабіляў, калі грузавыя лічыць за вала, а легкавыя — за асла.

Па разводах мы таксама першыя, але тут нават статыстыку прыводзіць не трэба, усіх зацьміў прэзідэнт.

Накont «памятай дзень суботні» — у нас больш-менш рэгулярна памятаюць 5% насельніцтва, а ў бездухоўнай Еўропе — каля 15%. Тут жа візуальна цяжка параўнаць: у нас у храме адна літургія ў дзень, ну, максімум, яшчэ адна, а там — канвеер. З «палюбі блізкага як самога сябе» ці хаця б «не рабі іншаму таго, чаго не хочаш, каб рабілі табе», — з гэтым мы і так ведаем, як у нас ідзе: як любім адно аднаго на дарозе, напрыклад.

**Анатоль**

# ФСБ падала ў суд на санаторый «Беларусь» за неўстаноўку расійскай праслушкі

23 мая Арбітражны суд Краснадарскага краю разгледзеў справу па заяве Кіраўніцтва Федэральнай службы па наглядзе ў сферы сувязі, інфармацыйных тэхналогій і масавых камунікацый да санаторыя «Беларусь» у Сочы, які належыць Кіраўніцтву справаў прэзідэнта Беларусі.

Паводле інфармацыі, што паступіла ад Упраўлення ФСБ Расіі па Краснадарскім краі, у санаторыя адсутнічаў План рэалізацыі эксплуатацыйна-тэхнічных патрабаванняў па забеспячэнні ОРМ на сетках сувязі ДУ «Санаторый «Беларусь» і Акт уводу ў эксплуатацыю тэхнічных сродкаў СОРМ па ліцэнзіі № 96696.

Што такое СОРМ? Гэта цэлы комплекс тэхнічных сродкаў і захадаў, якія прызначаныя для правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў пры дапамозе тэлефоннай сувязі (стацыянарны і мабільныя тэлефоны), бяздротавага інтэрнэту (вай-фай). Адзначаецца, што сістэма СОРМ-1 выкарыстоўваецца для праслухоўвання мабільнай сувязі, а СОРМ-2 — для пратакалавання зваротаў у інтэрнэце.

Фактычна, выходзіць, што санаторый «Беларусь» сабатаваў загады расійскіх спецслужбаў аб усталяванні ва ўстанове іх праслухоўвання. Альбо іншы варыянт, што ў санаторыі проста забыліся на патрабаванні. Не так даўно быў арыштаваны дырэктар санаторыя Георгій Саракашыш, грамадзянін Расіі працягвае знаходзіцца ў зняволенні ў Мінску. Невядома, калі пачнецца суд і ці будзе ён увогуле.

Суд пацвердзіў факт адміністрацыйнага правапарушэння, аднак прыцягнуць санаторый да адказнасці не здолеў. Скончыўся тэрмін прыцягнення да адказнасці, які складаў тры месяцы. Парушэнне было зафіксаванае 31 студзеня 2013, а пастанова вынесеная 23 мая.

Калі крыху прайсці па расійскім інтэрнэце, то можна пабачыць, што такая працэдура даволі стандартная. Адначасова з санаторыем «Беларусь» прэтэнзіі былі выстаўленыя да дзіцячага летніка «Арляня», што знаходзіцца ў Рэспубліцы Адыгея. Шмат падобных справаў можна знайсці і з іншых рэгіёнаў Расіі. У Расіі, у адрозненне ад Беларусі, вынікі судовых справаў вольна вывешваюцца ў інтэрнэт.

Санаторый «Беларусь» размяшчаецца ў горадзе Сочы на ўзбярэжжы Чорнага мора. Там неаднаразова адпачываў Аляксандр Лукашэнка. У гэты санаторый таксама атрымліваюць пуцёўкі чыноўнікі, прамыслоўцы, спартоўцы, прафсаюзнікі. Фактычна, расійскія спецслужбы ўголас выказалі жаданне адкрыта сачыць за наведнікамі санаторыя, у тым ліку самымі высокімі.

**Зміцер Панкавец**



**СОРМ у Беларусі**

У красавіку 2012 сістэму СОРМ усталявалі на сетцы перадачы дадзеных byfly. Такое паведамленне на кароткі час з'явілася на сайце «Белтэлекама». Варта адзначыць, што падобныя сістэмы існуюць амаль ва ўсіх краінах свету. Але выкарыстоўваюцца яны не для ціску на іншадумцаў, а для барацьбы з тэрарыстамі ды небяспечнымі злачынцамі. Для абароны ад СОРМа можна выкарыстоўваць праграму TOR (мінус — змяншаецца хуткасць інтэрнэту). Альбо сэрвіс VPN (ён платны, каштуе каля 5 даляраў у месяц). Вядома, што праграма skype пакуль што надзейна шыфруе трафік, ім можна смела карыстацца (але ёй захоўвайце гісторыю). Затое вялікія «дзіркі» маюць «аська», «укантакце», «мэйл.ру».

## Крывой і Рабальяці: ЕГУ аддаляецца ад Беларусі

ЕГУ страчвае сваю беларускую накіраванасць. Такую думку выказваюць аўтары аналітычнай паперы «ЕГУ: аптымізацыя ўздзеяння на Беларусь» — Яраслаў Крывой з Цэнтра пераходных даследаванняў і аналітык Алістар Рабальяці.




### Ні даследаванняў, ні мовы?

Пагутарыўшы з дваццаццю звязанымі з ЕГУ асобамі — выкладчыкамі, выпускнікамі, донарамі, — Крывой і Рабальяці прыйшлі да сумных высноваў. «Стратэгія ўніверсітэта згадвае Беларусь пераважна ў якасці крыніцы студэнтаў, а не ў якасці асноўнай мэты сваёй дзейнасці», — пішуць аналітыкі.

Паводле іх меркавання, ЕГУ, які праз эміграцыю ў Літву пазбег абмежавання акадэмічных свабод і ёсць унікальным рэсурсам для гадавання беларускіх эліт, змясціў акцэнт з беларусаарыентаванасці на «задавальненне шырэйшага кола студэнтаў з краінаў былога Савецкага Саюза».

### «Дабаўленая вартасць»

Аўтары аналітычнай паперы выдзелілі шэраг кірункаў, у якіх ЕГУ мае найбольшы патэнцыял і перавагу перад ВНУ, размешчанымі ў Беларусі. Менавіта палітalogія, гісторыя Беларусі, беларуская мова і літаратура, журналістыка, палітычныя правы, сацыялагічныя даследаванні і дэмакратычная трансфармацыя мусяць стаць ключавымі галінамі «дабаўленай вартасці» ЕГУ, мяркуюць аўтары.

Яны прапануюць аддаваць перавагу беларусам пры прыёме на працу ў ЕГУ і ствараць эфектыўны нагляднаы орган для рэгулярнага маніторынгу дзейнасці ўніверсітэта.

### ЕГУ адказвае

У лісце ад ЕГУ абвяргаюцца абвінавачванні з боку Крывога і Рабальяці і сцвярджаецца, што папрокі ў аддаленні ад фокуса на Беларусі абсалютна беспадстаўныя. ЕГУ піша, што не аддае перавагі супрацоўнікам не з Беларусі, як тое сцвярджаюць аналітыкі Цэнтра пераходных даследаванняў: больш за 90% акадэмічных супрацоўнікаў універсітэта з'яўляюцца беларусамі. Гэта датычыць і іншага персаналу. З 200 чалавек толькі 12 — грамадзяне Літвы. Аднак у лісце таксама падкрэсліваецца, што палітыка ўніверсітэта ніколі не прадугледжвала найманне толькі беларусаў.

95% студэнтаў таксама з'яўляюцца беларусамі. «Кіраўніцтва ЕГУ вырашыла, што студэнтам пойдзе на карысць мультыкультурнае асяроддзе, таму было вырашана прымаць больш студэнтаў з іншых краінаў, аднак іх доля не мусіць перавышаць усталяваны парог у 20%», — адзначаецца ў лісце. Яшчэ адным важным момантам з'яўляецца тое, што замежныя студэнты не атрымліваюць ніякіх ільготаў і аплачваюць навучанне цалкам.

ЕГУ сцвярджае, што і з акадэмічнай працай усё не так, як заяўляюць аналітыкі. Паводле прыведзенай статыстыкі, больш за палову студэнцкіх працаў прысвечаны беларускай тэматыцы, больш за трціну курсаў ЕГУ сфакусаваны на Беларусі. Разам з гэтым 44% усіх публікацый ЕГУ выдаюцца ў Беларусі, а 16% з іх выходзяць па-беларуску.

**Кірыла Хілько**

### Цытата

**«Словы Лукашэнкі несур'ёзныя»**



«Рэформы павінны рабіцца дзеля галоўнай мэты, якой служыць царква: дзеля выратавання чалавека і прывядзення яго да Бога, і ніякіх іншых мэтаў, — кажа святар Аляксандр Шрамко аб ідэі Аляксандра Лукашэнкі рэфармаваць Праваслаўную Царкву. — У Аляксандра Рыгоравіча іншая мэта. Для яго Праваслаўная царква — нейкі саюзнік у супрацьстаянні з Захадам, дзе, як ён казаў, маральнае разлажэнне... Ён захваляваўся, што можа страціць такога саюзніка ў барацьбе з Захадам. Гэта ён лічыць, што мае такога саюзніка ў Праваслаўнай Царкве, зыходзячы з ідэалагічных мэтаў. Для яго галоўнае — ідэалогія, каб людзі мелі пэўныя ўстаноўкі ў галаве і каб гэтыя ўстаноўкі ўзгадняліся з ягонымі мэтамі. У царквы ж іншая задача. Не трэба так ужо сур'ёзна ўспрымаць тое, што кажа Лукашэнка, ён можа сказаць экспромтам нешта, а заўтра ж сам забудзе».

**Паводле радыё «Свабода»**



## За айца Лазара сабралі 1000 подпісаў

Аргкамітэт Беларускай хрысціянскай дэмакратыі пачаў збор подпісаў за вызваленне каталіцкага святара з Барысава Уладзіслава (Уладзіміра) Лазара. Вядома, што сабрана тысяча аўтографаў.

Айцец Лазар можа быць тым чалавекам, пра якога гаварыў Аляксандр Лукашэнка, калі сказаў, што ў спецслужбах злоўлены шпіён, які меў сувязь з Захадам праз касцёл.

Тым часам стала вядома, што па пашпарце айцец Лазар зусім не Уладзіслаў, а Уладзімір. Знаходзіцца ён у турме КДБ «амерыканцы», куды родныя змаглі перадаць ежу і рэчы. А вось малітоўнік не ўзялі.

**ЗП**

Пісаць лісты Лазару можна на адрас: 220050, Мінск, а/с 8, СІЗА КДБ, Лазару Уладзіміру Міхайлавічу.

# «Менш чым з $7000 тут няма чаго рабіць»

Машыны старэюць, а **цэны на аўтарынку растуць.**



Беларусь — унікальная краіна, у якой аўтамабілі з цягам часу толькі даражэюць, нягледзячы на растучы прабег. Набыць танную заходнюю машыну амаль немагчыма — дзякуй за гэта Мытнаму саюзу. Расія хоча заваяваць беларускі рынак сваімі «Ладамі», ды ўсё марна.

Каб абнавіць аўто, беларусы альбо глядзяць у бок прыгнаных «маладых» маладітражак, альбо шукаюць прыдатны варыянт унутры краіны. Колькі каштуе больш-менш прывабны варыянт? Карэспандэнты «НН» выправіліся на сталічны аўтарынак.

...«Ждановічы» раніцай сустракаюць патэнцыйных купцоў напаўпустой пляцоўкай. Гэта не хлебныя 2010 і 2011, калі добрыя машыны разляталіся за дзень-два пасля прыгону з-за мяжы.

Па тэрыторыі стаянкі раскіданыя ланцугі, каробкі ды аранжавыя конусы дарожнікаў. Так спрактыкаваныя прадаўцы пазначаюць «свае» месцы. Адміністрацыя рынка на паперы забараняе такое «браніраванне», але насамрэч заплюшчвае на яго вочы.

### Цэны трымаюцца да апошняга

Амаль усе выстаўленыя аўто маюць транзітныя нумары — машыны прыгналі з-за мяжы, і яны чакаюць беларускага гаспадара.

На секунду затрымліваюся каля «Пежо 306» на «транзітах» за $7000, каб перапісаць цану. Адразу падбягае грузін і на ламанай рускай пачынае хваліць свой тавар: «Я скіну пару сотэн, нэ валнуйса. Сэм месяцаў у Беларусі, ніхто на ёй яшчэ не ездзіў!» Каб не збыць сваё аўто больш чым за паўгода, трэба моцна пастарацца...

Але насамрэч купцоў на рынку вобмаль, і тыя, хутчэй, прыглядаюцца да машын.

Прадаўцоў трохі больш. Яны бясконца паліруюць кузавы сваіх аўто ды між справай наракаюць на мінімальны попыт. Аднак цэны пры гэтым не зніжаюць. Самыя танныя аўто — укатаныя дызельныя «французы» і «немцы», своеасаблівае прывітанне з 90-х. У адзінкавых аб'явах можна сустрэць цану, меншую за $7000. Напрыклад, за «Таёту Каролу» (2000) просяць $6250, а «Рэно Меган» (1999) аддаюць за $5150.

Але і аўтамабіляў, даражэйшых за $20 тысяч, не відаць. Столькі, напрыклад, каштуе вылізанае васьмігадовае Audi A6.

### Мыты вызначаюць рынак

Самы хадавы тавар — іншамаркі ўзростам ад трох да пяці гадоў з маленькім рухавіком. На іх мыты найменшыя. Такія аўто, прыгнаныя з-за мяжы, крыху таннейшыя, чым на ўнутрыбеларускім рынку.

Іх прадаюць па $10—13 тысяч. «Шкода Фабія» (2010) стаіць з цэннікам $12300, «Таёта Ярыс» (2009) — $11500.

Ёсць і крыху даражэйшыя варыянты. Цана да торгу на «Фальксваген Гольф 6» (2009) складае $14600, на «Форд С-Макс» (2009) — $14650.

Колькі словаў варта сказаць і наконт прадаўцоў. Большасць аўто стаяць «нічыйныя» — за лабавым шклом напісаны тэлефон, па якім можна выклікаць прадаўца. А вось сярод тых, каго можна ўбачыць каля сваіх машын, беларусаў мала. Грузіны, малдаване, прадстаўнікі расійскай часткі Каўказа — на «Ждановічах» можна пачуць любую гаворку.

### «Беларус беларуса не падмане»

За тыя пару гадзін, што хаджу па рынку, намячаецца толькі адна ўгода. Маладая пара да апошняга вагаецца, ці браць немалады «Рэно Сцэнік» за $6750. Машыне ўжо 14 гадоў. Прабег, добра калі без адкруткі, складае 300 тысяч кіламетраў. Затое яна адна з самых недарагіх на рынку. Адчуўшы блізкасць поспеху, перагоншчык пачынае ўгаворваць кліентаў. «Адзін гаспадар, машына без праблем. Ты мне за яе пасля дзякуй скажаш! Хочаш, проста зараз на СТА паедзем? Я тут блізка ведаю адно добрае. Але ты не падумай, я не ўгаворваю, мне гэта навошта трэба?» — заводзіць звыклую легенду ён.

У маладых на прыкмеце яшчэ адзін «Сцэнік», трохі навейшы, але і даражэйшы. «Там адныя чуркі стаяць, вось яны машыны перафарбоўваюць. А беларус беларуса ніколі не падмане!» — пераконвае прадавец. Атрымаўшы зніжку за некалькі расколін на кузаве, пакупнікі пагаджаюцца на $6500. Дарэчы, па аб'явах у інтэрнэце такая машына таго ж узросту прадаецца за $5800—$6000. Але за тое, што апошнія гады аўто не трэслася па беларускіх дарогах, пакупнікі гатовыя і пераплаціць.

**Ягор Марціновіч**

#### «Прахадныя» варыянты

Найменшыя мыты для малалітражак узростам ад 3 да 5 гадоў. Напрыклад, за «Фальксваген Пола» з рухавіком 1200 см$^3$ на мяжы давядзецца аддаць пошліны каля $2650, за «Таёту Ярыс» з рухавіком 1000 см$^3$ — каля $1950.

Для параўнання, за папулярны раней дызельны «Сітраен Пікаса» з рухавіком 2000 см$^3$ (старэйшы за 2008), давядзецца заплаціць мыта памерам $12500 — больш за цану самой машыны.

## Свіная чума крочыць па краіне

За трыманне свіней у забароненых раёнах пагражаюць **крымінальнай адказнасцю.**

Утрымаць свіную чуму ў межах Гродзеншчыны і Міншчыны не ўдалося. Міністэрства сельскай гаспадаркі адзначае, што на карце краіны з'яўляюцца ўсё новыя і новыя ачагі. Неспрыяльнымі зонамі па афрыканскай чуме свіней прызнаныя сем раёнаў Віцебшчыны: Гарадоцкі, Шумілінскі, Бешанковіцкі, Сенненскі, Лёзненскі, Дубровенскі, Аршанскі.

Усіх незабітых насельніцтвам свіней тут будуць адбіраць. Астатнія раёны па ўсёй вобласці абвешчаныя буфернымі зонамі, выразаць свіней тут пакуль толькі рэкамендуюць.

Падобная сітуацыя і на Магілёўшчыне. Поўны адстрэл вядзецца ў Круглянскім, Шклоўскім, Горацкім раёнах. Ёсць ачагі і на Брэстчыне: гэта Баранавіцкі, Ляхавіцкі, Івацэвіцкі і Пружанскі раёны.

Асноўнай праблемай называюць дзікоў, якія пераносяць хваробу з вобласці ў вобласць. Па магчымасці ўсе дзікі будуць знішчаны.

Для прадухілення захворвання ў радыусе не менш за 5 км ад свінакомплексаў па ўсёй краіне цалкам забараняецца ўтрыманне свіней — і сялянамі, і фермерскімі гаспадаркамі. Тым, хто праігнаруе забарону, можа пагражаць пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў.

**ЯМ**

## Сцісла

### Даляр і еўра на максімуме

Амерыканская і еўрапейская валюта дасягнулі гістарычных рэкордаў. Нацбанк ацаніў іх у 8910 і 11810 рублёў адпаведна. У абменніках курсы яшчэ вышэйшыя.

### Льготнікам — толькі панэлькі

Домабудаўнічыя камбінаты і камбінаты буйнапанэльнага домабудавання павінны быць загружаныя магутнасцямі на рэшту 2013 года і найбліжэйшыя гады. Цагляныя і каркасна-блочныя дамы для льготнікаў больш будаваць не будуць. Хоць яшчэ некалькі гадоў таму агучваліся планы цалкам спыніць будаўніцтва панэлек.

### Льготныя крэдыты на жыллё завіслі

«Беларусбанк» і «Белінвестбанк» спынілі прыём заяваў ахвотных атрымаць льготныя крэдыты, стаўкі якіх складалі 14—16%. «Гэта звязана з коштам рэсурсаў: мы прыцягваем сродкі пад 35%, а выдаём пад 16% — гэта нелагічна», — растлумачылі ў «Беларусбанку». Тыя, хто паспеў заключыць дамову да 2 жніўня, пракрэдытуюцца ў поўным аб'ёме.

### Замест Расіі — Катар

«Беларуськалій» падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве з катарскай кампаніяй «Мунтаджат» аб супрацоўніцтве ў продажы мінеральных угнаенняў. Катарцы гатовыя прадаваць штогод да 3 мільёнаў тон беларускіх калійных угнаенняў. Падпісанне дамовы адбылося пасля навіны, што супрацоўніцтва з «Беларуськаліем» спыняе расійскі «Уралкалій».

### Сярэдні заробак у краіне — $592

Белстат апублікаваў дадзеныя аб сярэднім заробку ў краіне за чэрвень 2013 года. Ён ізноў вырас: за месяц на $22. У Мінску тым часам, як сведчаць падлікі, у чэрвені зарабілі ажно $764!

**ЯМ**

# Ёсць рэкорд! На «Міжнароднае права» — амаль 400 балаў

«НН» працягвае агляд прыёмнай кампаніі на **бюджэтныя месцы** беларускіх ВНУ.

### Вышэй няма нідзе

Абсалютны рэкорд сёлета ўсталявала спецыяльнасць «Міжнароднае права», якой навучаюць на факультэце міжнародных адносінаў БДУ. Для паступлення туды трэба было набраць неверагодныя 388 (летась 374) балаў. Пры гэтым на конкурснай аснове на «Міжнароднае права» паступіў толькі адзін чалавек. Астатнія 14 прайшлі без экзаменаў.

### Медагляд

Як і летась, у медыцынскіх набраць больш за ўсё балаў неабходна для паступлення на стаматолага ў мінскі «мед». Каб у будучым мець веды і ліцэнзію на лячэнне зубоў, абітурыентам трэба было «здаць» на 349 балаў (горад) ці 224 (вёска).

Другі па папулярнасці факультэт — фармацэўтычны. Прахадны бал туды склаў 346 для гарадскіх абітурыентаў і 295 для абітурыентаў з сяла (супраць 350 і 286 балаў у мінулым годзе).

### Сэрца не ляжыць да педагогікі

Своеасаблівыя «антырэкорды» працягвае ўсталёўваць галоўны педуніверсітэт краіны (БДПУ імя Максіма Танка). У гэтым годзе да бясконкурсных спецыяльнасцяў «Матэматыка і інфарматыка», «Фізіка і інфарматыка», «Фізіка і тэхнічная творчасць» дадаліся «Біялогія і геаграфія» «Пачатковая адукацыя» і нават новая спецыяльнасць «Беларуская мова і літаратура. Замежная мова (англійская)».

Спецыяльнасцяў, на якія ў 2013 у БДПУ спынілі набор, адразу 19. Сярод іх увесь музычна-педагагічны факультэт, спецыяльнасць «Гісторыя» (яе аб'яднalі з грамадазнаўчымі дысцыплінамі).

### Расійская і кітайская

На філфаку БДУ беларуская мова значна прайграе расійскай. На «Беларускую філалогію» і «Славянскую і беларускую філалогію» набіралі 30 «бюджэтнікаў», а на тыя ж спецыяльнасці, толькі з расійскай моваю — 55 чалавек. Прахадны бал на беларускамоўнае аддзяленне філфака таксама істотна ніжэйшы за расійскамоўнае.

| Факультэт (БДУ) | Прахадны бал, горад/сяло | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 2013 | 2012 | 2011 | 2010 |
| Міжнароднае права | 388 | 374/287 | 369/290 | 369/348 |
| Лінгвакраіназнаўства | 363/331 | 356 | 360/307 | 348/324 |
| Менеджмент (у сферы міжн. турызму) | 373/297 | 366 | 345 | 350/303 |
| Сусветная эканоміка | 372 | 366 | 345 | 360 |

| Факультэт(медуніверсітэты) | БДМУ | ВДМУ | ГрДМУ | ГДМУ |
|---|---|---|---|---|
| Лячэбны | 328/303 | 274/215 | 284/253 | 260/219 |
| Педыятрычны | 301/227 | - | 266/240 | - |
| Стаматалагічны | 349/224 | - | - | - |
| Фармацэўтычны | 346/295 | 320/285 | - | - |
| Медыка-прафілактычны | 268/279 | - | - | - |
| Медыка-псіхалагічны | - | - | 256/213 | - |
| Медыка-дыягнастычны | - | - | 269/218 | 252/233 |
| Вайскова-медыцынскі | 263 | - | - | - |

| Філалагічныя спецыяльнасці | 2013 | 2012 |
|---|---|---|
| Беларуская філалогія, БДУ | 157 | 206 |
| Славянская і беларуская філалогія, БДУ | 192 | 206 |
| Расійская філалогія, БДУ | 253/221 | 238 |
| Славянская і расійская філалогія, БДУ | 266 | 238 |
| Беларуская мова і літаратура, БДПУ | 231/202 | 240/218 |
| Беларуская мова і літаратура (+англійская), БДПУ | няма конкурсу | |
| Расійская мова і літаратура, БДПУ | 182 | 211 |
| Расійская мова і літаратура (+кітайская), БДПУ | 260/147 | няма конкурсу |

У БДПУ прахадны бал на «Расійскую мову і літаратуру» прайграў такой самай спецыяльнасці, але толькі таму, што больш папулярным аказалася навучанне адразу расійскай і кітайскай мове.

**КХ**

# Лячэнне дактароў — справа саміх дактароў

27-гадовы траўматолаг з Гомеля **заразіўся гепатытам на працы**, але грошай на яго лячэнне там няма.

Звычайны беларускі траўматолаг з Гомеля Сяргей Малашанка зрабіў незвычайную для нашых людзей справу: публічна папрасіў аб фінансавай дапамозе на лячэнне хранічнага гепатыту С. Малашанка сцвярджае, што страшную хваробу падчапіў на працоўным месцы, у філіяле №8 Гомельскай цэнтральнай гарадской паліклінікі.

Пра сваю хваробу Сяргей даведаўся выпадкова, калі разам з жонкай планавалі цяжарнасць.

«Будучы лекарам, знаходжуся ў групе рызыкі па гепатыце С, таму перыядычна нам робяць аналіз на маркеры гепатыту. Апошні раз у снежні 2011 гэты аналіз быў адмоўным. Значыць, інфекцыянаваўся я прыкладна на працягу апошняга года, пасля пачатку працы ў паліклініцы. Гэты вірус перадаецца толькі праз кантакт з крывёю. Якіх-небудзь медыцынскіх умяшанняў, наведванняў зубнога, пераліванняў крыві за гэты час у мяне не было. У мяне няма татуіровак, я не ўжываю наркотыкі. Гэта значыць, выключаны любыя спосабы заражэння, акрамя як падчас сваёй прафесійнай дзейнасці», — піша траўматолаг.

Лячэнне хранічнага гепатыту С — нятанная справа. Месячны курс прэпаратаў, прызначаных Сяргею, каштуе 1230 даляраў. Усяго ж на гадавое лячэнне, якое можа прынесці пазітыўныя вынікі, неабходна выдаткаваць амаль 15 тысяч даляраў. Такой сумы ў лекара з акладам у 400 даляраў няма.

### «Ідэю падказаў стрыечны брат»

Карэспандэнт «НН» пагутарыў з Сяргеем Малашанкам і высветліў акалічнасці яго змагання за ўласнае здароўе.

**«Наша Ніва»: Як Вы заразіліся гепатытам?**

**Сяргей Малашанка:** Мая праца звязаная з крывёю: напрыклад, калі я дастаю спіцы з костак ці праводжу іншыя маніпуляцыі. На кансультацыі доктар-вірусолаг расказаў, што кроплі крыві, якая пырснула на слізістую абалонку, у вока, было б дастаткова, каб падчапіць гепатыт С. А вось гепатыт В больш заразны: кроплі інфекцыянаванай крыві хопіць для заражэння басейна.

**«НН»: Адзін з каментатараў на Вашым сайце піша, што ў медустановах Беларусі інфекцыянаваныя гепатытам супрацоўнікі — звычайная справа.**

**СМ:** Асабіста я такіх лекараў не ведаю. Мабыць, гэта так, але калі чалавек не раскрые свой дыягназ, даведацца пра хваробу амаль немагчыма.

**«НН»: Як адрэагавалі на Вашу просьбу аб дапамозе Вашы калегі і кіраўніцтва?**

**СМ:** Калегі паставіліся спачувальна і з разуменнем. Менавіта яны першыя сабралі сродкі, на якія я пачаў лячэнне. Кіраўніцтва таксама падтрымлівае мяне. Па сваіх каналах «выбілі» мне матэрыяльную дапамогу: каля мільёна рублёў. Няшмат, канечне, але ў паліклініцы вялікіх грошай не водзіцца. Праблема ў сістэме ў цэлым.



**«НН»: З боку дзяржавы падтрымкі няма?**

**СМ:** Ад хранічных хваробаў у нас не страхуюць. За гэта не возьмецца ні адна страхавая фірма, бо лячэнне доўгае і яго эфектыўнасць невідавочная. Я лічу, што адзіным выйсцем застаецца дзяржаўны ўдзел у такіх сітуацыях, бо прэпараты вельмі дарагія і набыць іх у чалавека з сярэднім заробкам няма магчымасці. Але проста пашукаўшы ў інтэрнэце, я даведаўся, што, напрыклад, у Латвіі дзяржава кампенсуе 70—80% выдаткаў на лячэнне. Ізраіль таксама...

Іншым выйсцем было б — выраб неабходных лекаў у Беларусі, бо ў нас многа інфекцыянаваных гепатытам, а лекі — толькі замежныя. Можна ўзяць за прыклад Індыю ці Кітай, якія, не дачакаўшыся скančэння ліцэнзіі фармакалагічных карпарацый, аб'явілі ў сябе эпідэмію гепатыту і пачалі вырабляць свае танныя аналагі.

**«НН»: Ці толькі з Беларусі паступае дапамога на лячэнне?**

**СМ:** Ідэю зрабіць сайт для збору ахвяраванняў падказаў стрыечны брат, ён і распрацаваў яго, і навучыў мяне ім карыстацца. Спачатку інфармацыя пра збор сродкаў размяшчалася толькі на расійскіх форумах. Таму ў асноўным на рахунак пералічвалі расійскія рублі. А калі інфармацыя пра мяне з'явілася ў беларускіх СМІ, беларусы таксама актыўна далучыліся да справы. Хутка выкладу на сайт чарговую справаздачу пра ахвяраванні — раблю гэта ночу, бо грошы звычайна пасылаюць удзень. Пасля таго як адгукнуліся неабыякавыя людзі, неабходная на лячэнне сума ўжо знізілася з 15 да 9 тысячаў даляраў.

**Кірыла Хілько**

### Плацёжныя рэквізіты

**Аплата з дапамогай СМС** (для жыхароў Беларусі):
Адпраўце на нумар 553 SMS-паведамленне (не тарыфікуецца, гэты спосаб не працуе ў аператара velcom) выгляду:
50 08670582 <Сума плацяжу>
Прыклад SMS-паведамлення:
50 08670582 50000

**Папоўніць баланс мабільнага тэлефона:**
з дапамогай Plati.tut.by або любым іншым зручным спосабам папоўніць нумар:
+375256476737 (Life)
+375447986673 (Velcom)
у далейшым сродкі будуць пераведзены на EasyPay або WebMoney праз сэрвіс iPay

**Дабрачынны рахунак**
Філіял 300/146 ААТ «Беларусбанк»
9004-Р/Дабрачынны рахунак BYR 000010
пры пераводзе з іншых банкаў паказваецца дадаткова 13-значны нумар рахунку 3819382100255

Філіял 300/146 ААТ «Беларусбанк»
9000-Р/Благотворительный рахунак USD 000029
пры пераводзе з іншых банкаў паказваецца дадаткова 13-значны нумар рахунку 3819382102367
Код банка атрымальніка: 661
УНП атрымальніка: 400207877

**Адрас для паштовых пераводаў:** 246012, Гомель, Рэчыцкае шашы 149/73, Малашанка Сяргей Пятровіч

**Перавод на карту Беларусбанка:** 9112 0000 6775 2614 тэрмін 12/16

# Віцебскі КДБ узарвала «хуліганка з мужчынскімі схільнасцямі»?

**700 допытаў і 270 экспертыз** правялі следчыя, каб раскрыць злачынства.

Справа аб загадкавым выбуху накіравана ў пракуратуру для перадачы ў суд.

Як паведаміла прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова, следствам даказана віна затрыманай жыхаркі абласнога цэнтра. А ўзарвала выбухоўку 42-гадовая жанчына з «выключна хуліганскага матыву». Яна — хуліганка са стажам: раней ужо судзімая, у тым ліку па гэтым артыкуле.

Жанчына з сярэдняй адукацыяй аказалася падрыўніком-самавукам. У яе дома знайшлі цэлы канспект па выбуховых рэчывах і спосабах іх вырабу, некалькі саматробных выбуховак, пнеўматычны пісталет. У межах расследавання праведзена больш за 700 допытаў, прызначаныя каля 270 судовых экспертыз. Уявіце лічбу: 970 працэсуальных дзеянняў!

Адразу жанчына адмаўляла сваю віну, але пазней ва ўсім прызналася. І на следчым эксперыменце на камеру дакладна апісала, як вырабляла выбухоўку і закладала каля КДБ.

Затрыманая не замужам, пражывала з састарэлай маці, захаплялася мужчынскімі відамі спорту і практыкавала мужчынскі стыль адзення. Выйсці на яе дапамог кавалачак упакоўкі ад лекаў, што застаўся на месцы здарэння. Жанчыну вінавацяць у асабліва злосным хуліганстве. Ёй пагражае ад 3 да 10 гадоў калоніі.

Выбух каля КДБ Віцебскай вобласці адбыўся 11 лістапада 2012. Адразу на дачыненне да яго здзяйснення правяралася каля 60 чалавек. Паведамлялася пра аднаго затрыманага, які неўзабаве быў адпушчаны.

Адметна, што менавіта ў Віцебску адбыўся той выбух. З гэтага горада паходзяць Канавалаў і Кавалёў. Цікава, што выбух каля КДБ адбыўся праз два дні пасля таго, як быў адпраўлены ў адстаўку папярэдні старшыня Камітэта Вадзім Зайцаў.

**Кастусь Матушыч**



Выбух адбыўся праз два дні пасля адстаўкі кіраўніка КДБ Вадзіма Зайцава.

СЯРГЕЙ СЕРАБРО

## У мінскім СІЗА памёр 21-гадовы арыштант

**Факт смерці** «Нашай Ніве» пацвердзіў начальнік СІЗА Вікенцій Варыкаш.

«Каментароў мы не даём, — кажа спадар Варыкаш. — Экспертыза пакажа. Мы не ведаем, ад чаго ён памёр».

Інфармацыю пра здарэнне першай распаўсюдзіла «Платформа» — арганізацыя, якая займаецца абаронай правоў зняволеных.

21-гадовы Ігар Пціцкін мусіў адбыць у СІЗА трохмесячны арышт: сеў за руль аўто, хаця быў пазбаўлены правоў. 30 ліпеня ён прыехаў у Заводскае РУУС Мінска, каб адбыць пакаранне. Яго праводзілі маці з сястрой. Хлопца адвезлі ў СІЗА №1 на Валадарскага. А 4 жніўня ён памёр.

На сустрэчы з начальнікам СІЗА родным хлопца паведамілі, што ў Ігара 3 жніўня пачалося «псіхаматорнае ўзбуджэнне». І яго змясцілі ў медыцынскую часць, «дзе давялося фіксаваць яго мяккімі рамянямі».

Псіхаматорнае ўзбуджэнне — гэта псіхічнае расстройства. Чалавек робіць шмат рухаў, шмат гаворыць (можа крычаць), учынкі непрадказальныя. Часам такое ўзбуджэнне суправаджаецца агрэсіяй, весялосцю, разгубленасцю. Магчымыя трызненне і галюцынацыі. Чалавек можа быць небяспечным як для сябе, так і для іншых. Падлягае неадкладнай ізаляцыі.

У пасведчанні аб смерці, якое выдалі родным, пазначана, што прычына смерці высвятляецца.

Родныя Ігара не вераць, што малады хлопец мог вось так памерці за некалькі дзён. Яны сфатаграфавалі яго цела, на якім у розных месцах ёсць сінякі. Увесь жывот сіні! Яны лічаць, што хлопца білі. У СІЗА ж адмаўляюць факт збіцця.

**Сяргей Макарэвіч**





**Чалавек, падобны да фотаробата,** расшукваецца па падазрэнні ў хуліганстве. Як мяркуецца, 29 ліпеня ён у мінскім мікрараёне «Вяснянка» разбіў у аўтобусе шыбу. Два чалавекі пацярпелі. Прыкметы: на выгляд 18—23 гады, рост 165—170 см, вочы блакітныя. Знаходзіўся ў кампаніі з чатырма хлопцамі і дзяўчынай. Хто пазнаў гэтага чалавека, звяртайцеся ў Цэнтральнае РУУС Мінска: (017) 288-02-02, (017) 288-78-13.



**Апановіча Сяргея Юльянавіча** расшукваюць па падазрэнні ў крадзяжы, здзейсненым паўторна. Прыкметы: на выгляд 40 гадоў, рост 170—175 см, хударлявы, вочы блакітныя. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, звяртайцеся ў Ваўкавыскі РАУС: (01512) 7-51-10, (01512) 7-51-15.



**Кір'як Андрэй Сямёнавіч** да верасня 2012 знаходзіўся на заробках у Смаленску. Пасля звальнення дамоў не вярнуўся. Прыкметы: на выгляд 35—40 гадоў, рост 172 см, хударлявы, вочы карыя. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, звяртайцеся ў Мсціслаўскі РАУС: (02240) 2-41-45, (029) 135-07-64, (029) 685-21-40.

## Раззлаваўся і расчляніў сябра



Жорсткае **забойства ў Пінску**.

Зніклага Андрэя шукалі больш за тыдзень. Пра яго знікненне заявіла маці. 21 ліпеня яго бачылі на плошчы Леніна ў Пінску, а праз дзве гадзіны, як высветлілася, яго забілі.

Цела 26-гадовага хлопца знайшлі ў ляску каля пляжа: было прысыпана зямлёй і закідана галлём. Побач ляжалі адрэзаныя нага і рука.

Падазраванага затрымалі. Гэта 21-гадовы пінчук. Ён прызнаўся, што з Андрэем пасварыліся. А каб давесці сваю праўду, ён выхапіў нож. Як і што адбывалася пасля, следчыя не расказваюць. Вядома, што гэтым жа нажом хлопца расчлянілі.

Па інфармацыі УУС Брэсцкага аблвыканкама, забітага раней судзілі за хуліганства і продаж наркотыкаў. Вядома, што Андрэй быў нежанатым, беспрацоўным. Жыў з маці.

Крымінальная справа заведзеная за забойства. Пакаранне па гэтым артыкуле прадугледжвае зняволенне ад 6 да 15 гадоў.

**КМ**

## Сцісла

### У Магілёве парэзалі амапаўцаў

Тры супрацоўнікі міліцэйскага спецназа ў цывільным ішлі па горадзе, калі ў іх пачалася сварка з іншымі магілёўцамі — «міжасабовы канфлікт». У выніку спецназаўцаў некалькі разоў пырнулі нажом: аднаго ў пахвіну, другога ў шыю, трэцяга ў жывот. Амапаўцы былі не пры выкананні абавязкаў. Двое з іх знаходзяцца ў бальніцы, трэцяга, перавязаўшы, адпусцілі дамоў. Трое падазраваных магілёўцаў таксама адпушчаныя. З іх узялі паказанні. Ідзе праверка.

### Выбухнула, бо не паверылі скаргам

За выбух газу ў доме ў ваенным гарадку Малінаўка Лагойскага раёна адкажуць дырэктар і старшы майстар «Лагойскрайгаза». Іх прызналі вінаватымі ў службовай халатнасці (не рэагавалі на скаргі жыхароў дома пра магчымую аварыю) і асудзілі кожнага на тры гады калоніі-пасялення. У выніку выбуху ў лютым 2012 адзін чалавек загінуў, а двое атрымалі цяжкія раненні.

### Параніў бацьку газонакасілкай

Сын пасварыўся з бацькам на падворку ў вёсцы Сёмкаў Гарадок Мінскага раёна. Маладзейшы схапіўся за газонакасілку. Адрэзаў два пальцы на правай руцэ, пашкодзіў кісць, перадплечча, галаву, паясніцу. Сын раней быў судзімы за хуліганства.

### 46 удараў нажом

Жодзінца, які забіў двухгадовага хлопчыка, адправілі на прымусовае лячэнне ў псіхіятрычны стацыянар з узмоцненым назіраннем. Экспертыза ўстанавіла, што мужчына быў алкаголікам, а 46 удараў кухонным нажом-сякеркай дзіцяці нанёс, калі быў у бяспамяцтве ад выпітага.

**КМ**

# Шкарпэткі з сандалямі прызналі галоўным модным непаразуменнем усіх часоў

Пра гэта сведчаць вынікі апытання, праведзенага сеткай брытанскіх супермаркетаў Debenhams.

Каментуючы вынікі апытання, прадстаўнік універмагаў заявіў, што нягледзячы на тое, што не так даўно шкарпэткі і сандалі апынуліся на модных подыумах (не так даўно некалькі модных дамоў, у тым ліку Christian Dior і Chanel уключылі гэты ансамбль у свае калекцыі), людзям гэта спалучэнне ўсё роўна не падабаецца.

«Быць можа, яны добра глядзяцца на модным паказе, але не ў жыцці», — заявіў ён.

Другое месца ў антытопе занялі мужчынскія чаравікі на платформе, а трэцяе — занадта нізка спушчаныя з лініі таліі штаны.

**Сямён Цыбульскі**






**Фотафакт**

### Беларуская рэшта

Найменшая беларуская купюра — толькі наміналам у 50 рублёў. Гэта пры тым, што беларускія грошы вытрымалі дзве дэнамінацыі (у 10 разоў і 1000 разоў).

У ЗША купюра з самым вялікім наміналам, што знаходзіцца ў абароце, акурат у 100 адзінак (г.зн. даляраў).

У замежнікаў зняцэненая беларуская валюта выклікае шок.

**Сяргей Гудзілін**

# Ультраправы пісьменнік Юрый Станкевіч напісаў кнігу для дзяцей

Аўтар рамана «Любіць ноч — права пацукоў» у інтэрв'ю газеце «Звязда» расказаў, што неўзабаве можа з'явіцца ягоная кніга для дзяцей і падлеткаў.

«Сабраў з раней ненадрукаванага матэрыял для нечаканай нават для сябе кнігі для малодшага пакалення, якую, магчыма, і выдам сёлета», — сказаў пісьменнік.

«Новае пакаленне, як і ўсе папярэднія гады, часам захапляе, здзіўляе, бывае, насцярожвае, бо падзяляецца на асобныя плыні. Яно кемлівае, больш энергічнае, часам прагматычнае. Але бывае, што пры ўсёй кемлівасці вельмі даверлівае да «сволачаў».

Юрый Станкевіч у гутарцы таксама нагадаў выказванне Караткевіча, што кожны беларускі пісьменнік мусіць напісаць хоць бы адзін дэтэктыў, што «паслужыла б на карысць умацавання нашай роднай мовы».

Юрый Станкевіч — 63-гадовы пісьменнік з Барысава. Аўтар кніг «Любіць ноч — права пацукоў» (1998), «Апладненне ёлупа» (2005), «Мільярд удараў» (2008), «П'яўка» (2010), «Шал» (2012).

**ЗП**





**Камертон Сяргея Ваганава**

## Фартыфікацыя гісторыі

Ну, што за навала з Міністэрства абароны на слаўны горад Ваўкавыск? То танк «ІС-3» усцягне на пастамент — нібыта ў памяць аб вызваліцелях ад фашыстаў. То БМД-1 — нібыта ў гонар «афганцаў»...

Усіх, каму не падабаецца такое мілітарысцкае «ўшанаванне» трагічных старонак беларускай гісторыі — ці ў Другой сусветнай вайне, ці ў афганскай авантуры, — міністэрскія ідэолагі залічаюць у «фальсіфікатары».

Усё ж цікава, якой метадалогіяй карыстаюцца ў сваім змаганні з «фальсіфікатарамі» змагары ў пагонах з вялікімі зоркамі.

Вось праграмны, так бы мовіць, артыкул былога міністра абароны, зараз дзяржсакратара Савета бяспекі генерала Мальцава «Великая Отечественная война: сражение за правду истории», надрукаваны ў газеце «Во славу Родины». Спачатку я вырашыў, што генерал паміж маштабнымі манеўрамі паглыбіўся ў сакрэтныя архівы, у вывучэнне і прад'яўленне свету яшчэ невядомых гістарычных дакументаў. Але нічога, што магло б вымусіць да напісання гэтага артыкула, не знайшоў. Ні новых дакументаў, ні спасылак на нейкія «варожыя» выданні, ні канкрэтных фальсіфікатараў... Затое шмат вялікіх лічбаў, жывой і нежывой сілы, баявой тэхнікі... Карацей кажучы, суцэльная фартыфікацыя ў адбіванні атак нейкіх «фальсіфікатараў». Не хапае толькі «дзесяці сталінскіх удараў», па якіх, памятаю, я быў найлепшы ў класе адмыслоўец яшчэ ў 50-х гадах мінулага стагоддзя. Тым не менш, генерал абвяшчае маштабнае наступленне, «бой в сфере смыслов не последний, но, несомненно, решительный и бескомпромиссный»...

Генералы наўрад ці падобны на дон-кіхотаў, каб змагацца з ветранымі млынамі. Нешта і сапраўды турбуе іх у «сферы сэнсаў» і вымушае будаваць сваю «лінію Сталіна».

Што?

А вось што: намаганні «создания образа нашей Родины как якобы порочной общественной конструкции».

Пад «Родиной» маецца на ўвазе Савецкі Саюз, а ў кантэксце — і Рэспубліка Беларусь.

Усё ж патрабуецца незвычайная генеральская кемлівасць, каб жыць на дзве радзімы. І наўмысная бяспамяцтва, каб

### У бой ідуць адны генералы



выстаўляць злачынны сталінскі рэжым нявіннай «общественной конструкцией» і захоўваць пры тым вернасць «правде истории». У цывільных палітыкаў, за выключэннем некаторых прэзідэнтаў у мундзірах, гэта ўжо атрымліваецца зусім дрэнна ці не атрымліваецца зусім.

І тады ў бой ідуць адны генералы. У Расіі, што праўда, ужо не адны: ствараюць у дапамогу адмысловыя вайсковыя роты. Толькі навошта? Працей перапісаць савецкія падручнікі, дзе ўся гісторыя мінулай вайны раскладзена па паліцах згаданых «сталінскіх удараў». Ці дадаць нешта навенькае, сучаснае, так бы мовіць, накшталт таго, што з непадкупнай генеральскай адкрытасцю сцвярджалася на сайце расійскага Міністэрства абароны. Аказваецца, Другая сусветная вайна пачалася па віне Польшчы. Не задаволіла, маўляў, «умеренные претензии» Германіі і ўцягнула такую нявінную «общественную конструкцию», як СССР, у крывавую гісторыю, перашкодзіла дамаршыраваць сумесны з фашыстамі парад...

Датычна да Беларусі няма больш доказных, чымсьці генеральская «праўда гісторыі», прыкладаў таго, што дасюль доўжыцца ідэалагічная акупацыя Савецкім Саюзам — падагравае рэваншызм за гістарычную паразу ў «халоднай вайне», штурхае да пошуку знешніх і ўнутраных ворагаў, падмяняе асэнсаванне гісторыі і нармалёвую грамадскую дыскусію чарговым «сражением за правду». Па ўсіх правілах фартыфікацыйнага мастацтва адбудоўваюцца старасавецкія прапагандысцкія рэдуты пад маскіровачнай сеткай з гучных словаў пра гераізм, патрыятызм, самаахвярнасць, памяць аб загінулых і павазе да жывых...

Горш за ўсё, што ад усяго гэтага людзі, асабліва маладыя, з палёгкай ставяцца ўвогуле да вайны, а іх свядомасць узбуджае пераможны мілітарысцкі апломб. Памятаю, як па расійскіх тэлеканалах раскручвалася камп'ютарная гульня пад назвай «Вторая мировая война». На пытанне да распрацоўшчыкаў, ці можа ў гэтай гульне перамагчы Германія, яны, маладыя інтэлектуалы і разумнікі, гарантавалі, што «победа всегда будет за нами».

...А «дзесяць сталінскіх удараў» павыляталі з маёй галавы, калі ўвосень 1956-га мы ўсім класам трапілі ў Брэсцкую крэпасць.

Мы ішлі да крэпасці па хісткім мосце, асцярожна абыходзячы правалы ў драўляным насціле. Я ўхапіўся за адлітыя, здавалася, на стагоддзі круглыя чыгунныя парэнчы і зараз жа раздзёр руку ў кроў — на ўсім працягу яны былі парваны асколкамі, што павыварочвалі навыварат рэжучыя па краях дзіркі...

Яна вельмі вострая, праўда гісторыі. Як дабрацца да яе, хапаючыся за парэнчы, па хісткім, з правaламі, мосце Часу, трэба не руку — душу раздзёрці ў кроў.

Куды прасцей усцягваць на пастаменты танкі...

# Грутас: **Эфект маўзалея**

**Недалёка да беларуска-літоўскай мяжы знаходзіцца парк Грутас, дзе сабралі помнікі Леніну, Сталіну, Дзяржынскаму з усёй Літвы.**


VASISUALIJ.LIVEJOURNAL.COM

Нацыяналісты абвінавачваюць бізнесмена Вілюмаса Мілінаўскаса, стваральніка і ўладальніка Грутаса, у прапагандзе савецкай сістэмы. Камуністы ж не могуць дараваць здзеку са свайго мінулага.

**Чаму Літва?**

Існуе пэўная логіка ў тым, што сярод прыбалтыйскіх рэспублік такі парк з’явіўся менавіта ў Літве. Улады і насельніцтва Эстоніі ў агульнасаюзныя справы заўжды былі ўцягнутыя мінімальна. Што датычыцца Латвіі, дык там частка грамадства, наадварот, прыняла савецкія новаўвядзенні, якія ператварылі краіну з аграрнай у індустрыяльную. З трох рэспублік Латвія найбольш змянілася за савецкі час. Сваю ролю тут адыграла і перасяленне ў краіну рускамоўных жыхароў (у сярэдзіне 1990-х латышы складалі толькі 55% насельніцтва), і традыцыі існавання «латышскіх стралкоў», фанатычных абаронцаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Адпаведны парк у Латвіі толькі спрыяў бы далейшаму расколу грамадства.

А вось у Літве ўзнікла раўнавага паміж латышскім фанатызмам і эстонскай абыякавасцю. Так, інтэлектуальная эліта краіны наўрад ці калі-небудзь даруе знішчэнне ўласнай дзяржавы як праз падзелы Рэчы Паспалітай, так і ў 1940. З іншага боку, паміж літоўскай і расійскай культурай працягваюць існаваць трывалыя сувязі. Напрыклад, літоўскія рэжысёры ўжо не першы год вызначаюць моду ў тэатральнай Маскве. Яны не такія слабыя, каб цалкам адмаўляцца ад кантактаў, але і не такія моцныя, каб Масква магла дыктаваць Літве свае ўмовы і ўплываць на яе праз масавую культуру, як тое назіраецца ў Латвіі. Адпаведна, узнікае магчымасць для погляду на савецкае мінулае з дыстанцыі.

**Ці быў злачынцам Чарняхоўскі?**

На ацэнку парку ў значнай ступені ўплываюць надпісы, размешчаныя побач з кожным помнікам, прычым на англійскай, рускай і літоўскай мовах. Для савецкага часу іх тэкст выглядае надзвычай катэгарычна.



Але з пункта гледжання сённяшняга дня нічога дзіўнага — нават для кансерватыўных беларусаў — няма. Мясцовых камуністаў, якія працавалі ў 1920—1930-я на Камінтэрн, папракаюць у непрызнанні літоўскай дзяржаўнасці, што існавала да 1940. Кіраўнікоў Літвы пасля далучэння рэспублікі да СССР — у генацыдзе ўласнага народа і разбурэнні архітэктурных помнікаў. А вось подпісы ля помнікаў тым асобам, якія вызначыліся ў падзеях Другой сусветнай вайны, выклікаюць дыскусіі.

Напрыклад, спынімся на асобе генерала Чарняхоўскага. Гэты военачальнік з’яўляўся самым маладым камандуючым франтам у СССР. А Трэці Беларускі фронт, які ён узначальваў,

> **Савецкія і літоўскія камуністы не жывуць у парку, а проста існуюць там**

удзельнічаў у вызваленні Беларусі. Дык вось, вайсковыя часці, якімі кіраваў савецкі палкаводзец, абвінавачваюць у гвалце над мясцовымі жыхарамі. У тэксце прыводзіцца прыклад, калі ў адным з літоўскіх раёнаў пасля праходжання арміі былі абрабаваныя ўсе сем’і.

Дзеля справядлівасці адзначу, што помнікаў, звязаных з падзеямі Другой сусветнай вайны, мала. Таму ўсё ж такі ў Грутасе яны знаходзяцца на другім плане. Але галоўнае бачыцца ў іншым. У далёкай будучыні іншы ўладальнік парку можа змяніць змест подпісаў на супрацьлеглы. Нават у цяперашнім варыянце тэкст, дарэчы, празмерна перагружаны фактalogіяй, не выклікае асаблівай цікавасці ў наведвальнікаў. Падчас майго знаходжання ў Грутасе інфармацыю не чытаў амаль ніхто.

**Маўзалей… і шчыгрынавая скура**

Якія ж пачуцці выклікаюць манументы і скульптуры, а таксама тая сістэма, якую яны калісьці ўвасаблялі? Бадай, не адкрыю Амерыкі, калі скажу, што савецкая сістэма ў Літве даўно сканала. А таму яе рэшткі (помнікі парку Грутас) паўтараюць... эфект маўзалея. Неаднаразова даводзілася сустракаць успаміны людзей, нават заўзятых і праверных камуністаў, якія былі жахліва расчараваныя надведваннем саркафага на маскоўскай Краснай плошчы. І справа тут зусім не ў Леніну. Такі ж эфект можна было чакаць, калі б чытач убачыў там любую іншую выбітную асобу. Бо сама сітуацыя, падчас якой цела знаходзіцца паміж небам і зямлёй у нейкай бязважкай прасторы, не можа не выглядаць двухсэнсоўнай. А таму знішчае ўсялякую рамантыку і ранейшыя ўяўленні пра лідара, што знаходзіцца ў бальзамаваным выглядзе.



У гэтай сувязі цікава параўнаць паміж сабой часткі парку. У адной, дзе размешчаны невялікі заапарк, пануе жыццё. У другой, дзе на пэўнай адлегласці адна ад адной стаяць скульптуры, жывой паўстае толькі прырода. А самі помнікі, вырваныя з савецкага кантэксту, успрымаюцца як штучныя і нават варожыя навакольнай прыгажосці. Парадокс у тым, што сапраўдная гісторыя пануе не ў ваколіцах Друскенікаў, дзе пастаў парк, а дзесьці далёка, на прасторах Вільні, Коўна ці Трокаў. І зусім не прынцыпова, маюцца ці не маюцца там помнікі вялікім літоўскім князям. Бо там прысутнічае свет, створаны імі. А помнікі савецкім партыйным дзеячам у Грутасе нагадваюць рыбін, выкінутых на ўзбярэжжа.

Таму другім сімвалам, праз які можна патлумачыць вобраз і значэнне парку Грутас, з’яўляецца вобраз шчыгрынавай скуры. Як памятае чытач, яе атрымаў Рафаэль, галоўны герой аднайменнага твора Бальзака. Кавалак




шчыгрынавай скуры здзяйсняў любыя жаданні. Але пры іх выкананні змяншалася як плошча кавалка, так і жыццё самога героя. Усвядоміўшы сітуацыю, малады чалавек адмовіўся ад любых стасункаў з людзьмі, імкнучыся застацца на гэтым свеце. Але такім чынам ператварыў сваё жыццё ў бессэнсоўнае існаванне. Савецкія і літоўскія камуністы (у выглядзе помнікаў) не жывуць у парку, а проста існуюць там.

**Грутас.by**

Ці магчымы такі лёс помнікаў вядомым беларускім камуністычным дзеячам, што стаяць на плошчах амаль усіх айчынных гарадоў? Зразумела, эстонскі варыянт выглядае ў нас цалкам нерэальным. Беларусь занадта моцна звязала ўласны лёс з Савецкім Саюзам, каб адмовіцца ад савецкага мінулага.

Савецкія помнікі працягваюць стаяць на п’едэсталах. Але сярод пераважнай большасці беларусаў ніхто даўно не ўспрымае герояў, увасобленых у помніках, усур’ёз. Больш за тое, апошнія сталі аб’ектамі іроніі і гумару і даўно не выконваюць сваёй ранейшай ідэалагічнай ролі.

Менавіта таму ў Беларусі даўно наспела стварэнне свайго парку. Нават дзеля вопыту і мадэлі для пераймання беларусамі парк Грутас варта было стварыць.

**Дзяніс Марціновіч**

**Зміцер Дашкевіч**. Аповесць.

# Чарвяк

*Галоўны герой аўтабіяграфічнай аповесці адседжвае палітычны тэрмін у калоніі на Віцебшчыне. Пакараны за «парушэнне», ён стаіць у цеснай клетцы між працоўнай і жылой зонамі калоніі. Невядомы зэк кладзе яму ў далонь цукеркі. Бліжэй пазнаёміцца з Дзянісам удаецца ў «адзіночцы», куды абодва трапляюць за «парушэнне рэжыму»...*

**Працяг. Пачатак у «НН» ад 17, 24, 31 ліпеня.**



Павел Севярынец, Мікола Статкевіч, Зміцер Дашкевіч (злева направа). Кастрычнік, 2010.

ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ

На шпацыр нас вывелі ўтрох: мяне, Дзёню і высокага бледнатварага зэка гадоў 30-ці. Сусед гэты ўвесь час весяліўся і на радасцях ажно падскокваў падчас хады. А калі спыняўся, каб што-небудзь паведаміць суразмоўцам, твар ягоны прыўкрасна лыбіўся і час ад часу падміргваў правым вокам.

— Санчоус, дык і ты вырашыў прагуляцца? — звярнуўся да яго Дзяніс.

— Канечне, — правае вока міргнула. — Трэба падыхаць восенню.

Так, надышоў першы дзень восені. Быццам па каляндарным загадзе лес фарбуецца ў жоўтабарвовыя адценні, а паветра свяжэе. Мы стаялі, узіраючыся ў краявіды і паглынаючы першавераснёўскае хараство...

...А ў памяці паўставалі ўспаміны: бесклапотнае дзяцінства — кветкі, ранец, новыя сшыткі і кнігі з натхняльным пахам друкарні, лінейка. Чаго дасягнулі мы з тых далёкіх часін, якія патанаюць у восеньскім ранішнім тумане? Ці споўніліся летуценні дзіцячыя? Наўрад ці нехта з нас уявіць мог, што першага верасня мы будзем выходзіць не на школьную лінейку, не на працу на карысць Бацькаўшчыны, а як парушальнікі ўсіх рэжымаў гэтай Бацькаўшчыны пасунемся са сваіх адзіночак у прагулачныя клеткі, радуючыся, што цэлых 60 хвілін дазволена нам дыхаць вольным першавераснёўскім паветрам.

— Эх, прыгажосць! — гукнуў Дзёня. — Глядзеў бы і глядзеў!

— Пакуль гэта ўсё, што нам застаецца, — падскочыў Санчоус.

— Нічога, загляне сонца і ў нашае аконца, — абнадзеіў я.

— Калі ў маё загляне, Дзімон, — з сумам выдыхнуў пекар. — Наперадзе восем зімаў.

— І што, надзеі на перагляд ніякай?

— Па маім артыкуле, 139-м, і пісаць няма сэнсу: я ж мог выхапіць і 25-ку, і «лоб зялёнкай».

На маю просьбу Дзяніс пачаў аповед.

— «Дзялюга» такая. Быў у нас у Паставах чэл адзін, бандзюкаваты такі. Праўда, я і сам з тых. З маладосці так склалася — як далі мне ў 16 год «трошку» за хуліганку — так і пайшло па накатанай. І гарадок у нас даволі бандыцкі — да апошняга часу нават «абшчак» збіраўся на «жулікаў», чаго ў Беларусі ўжо даўным-даўно няма. І вось чэл гэты, Кірыл, судзімы-перасудзімы, спаліў машыну сяброў маіх, двух братоў. Потым ён чамусьці вырашае (відаць, каб разборак пазбегнуць) сплаціць за машыну ды просіць мяне звесці яго з братамі. А яны судзімыя самі і таму заяву не падавалі. Ну, я звёў — прыйшлі мы разам да іх на хату. З чэламі гэтымі я, дарэчы, прайшоў агонь і ваду, якіх толькі мы дзялюг не муцілі, і верыў я ім як сабе.

Карацей, сядзяць яны на кухні і размаўляюць, а я ў іншым пакоі, з дзяўчынаю піўцо папіваю. Чую, спрэчка. Я — туды. Высвятляецца, яго не задавальняе цана, якую за машыну выставілі. Ну, я, праўдашукальнік... ці што я там шукаў? Кажу яму: «Ты скажы дзякуй, што з табой проста размаўляюць за тачку спаленую. Заплаціш, колькі скажуць». Ён — за нож і на мяне, трохі нават падрэзаў. Але я яго вымалаціў добра. Аб'ехаў той па сцяне і сіпіць: «Усё, Дзёня, харош. Я зразумеў». Ну, зразумеў дык зразумеў. Я і пайшоў дахаты. Назаўтра за мною прыязджаюць і садзяць у ізалятар.

Пасля мяне дабілі браты чэла таго і павезлі закапалі. Следакі робяць экспертызу, высвятляецца, што Кірыла закапалі яшчэ жывога. Становіцца зразумела, што я ні пры чым, і мяне з «кічы» вызваляюць пад падпіску. Тыя ж сядзяць, і ім інкрымінуюць укрыццё цела; а я бяру ўсё на сябе, але настойваю на самаабароне, тым больш, што пабоі — парэзы — з мяне знялі таксама.

Аднак тут прыязджаюць следакі з вобласці, кажуць: «Э, не, так не пойдзе: Дзёня хітры чэл — ён і сябе адмазвае, і вас з турмы выцягвае». Перарабляюць экспертызу, і тая дае ўжо, што Кірыла закапалі мёртвага.

— Як жа так?! — абурыўся я.

— Ну як... — хмыкнуў Дзяніс. — Следакам трэба гучнае злачынства, раскрыццё, нейтралізацыя бандытызму і, як вынік, статыстыка, зорачкі з прэміямі ды павышэнні. Мяне закрываюць ізноў, а братоў вызваляюць, і пачынаюць тыя грузіць мяне па поўнай. Я ў жаху... Ды што зробіш? Ім сказалі: ці вам «вышка», ці яго грузіце. Ну і ўсё, даводзяць мяне па забойстве да суда. А гарадок жа невялікі, усе ўсё ведаюць, зразумела і суддзі, і пракурору, што я не забіваў. Маці Кірыла на судзе пратэставала, заяўляючы, што забілі браты, а не я. Але мяне прыгаворваюць. У гэтым і прычына, што далі толькі дванаццаць гадоў па такім артыкуле.

Калі мяне закрывалі першы раз, у 2006, я быў перакананы, што пад прэсам у нашай дзяржаве знаходзяцца толькі палітычныя апаненты, але, як толькі агледзеўся, з жахам зразумеў: пад прэсам усё грамадства — бізнесмены, чынавенства, моладзь, — усе і кожны.

Ты можаш самастойна зарабляць і не крышуешся ціцянковічамі? — у турму! Ты малады, энергічны, няўрымслівы і недзе спатыкнуўся? Мы дапаможам табе знайсці жыццёвы шлях — у турму! Ты кіраваў калгасам і не мадэрнізаваў вілы — у турму! (А ён табе казаў: «Сядзеш!») Ты быў у абойме і, асмялеўшы на нейкім фуршэце, сказаў не тое? Тваё месца там — у турме! Але ў гэтым выпадку не наракай таксама: ты ведаў каму служыш.

Можа скласціся ўражанне, што коцікі тут усе пухнатыя сядзяць і чыноўнікі-небаракі. Не, сядзяць і злачынцы. Але расклад, па назіраннях маіх, такі: трацiну трэба адсюль выгнаць адразу, другой трацiне надаваць па сраццы і адпусціць каго да мамкі, а каго да жонкі. З апошняй трацінаю трэба разбірацца — ці маюць сядзець і ці такія вар'яцкія тэрміны.

І «палітычныя» пачуваюць сябе больш упэўнена: пра іх пішуць СМІ, па іх прымаюць петыцыі праваабаронцы, вызвалення іх патрабуюць дзяржавы. А хто заступіцца за гэтых? Дзёня — мой сябар на турэмным шляху — хто дапаможаца для яго справядлівага суда? Ці нарабіў ён на 12 гадоў без права на амністыю? І які суд загляне ў душу? Які можа ўбачыць у вачах прагу да новага жыцця? Пад цяперашняй акупацыяй і разважаць пра тое не выпадае.

— А тыя два, што загрузілі цябе? — запытаў Санчоус.

— Тыя па годзе ўзялі за сукрыццё цела.

— Ты скажы мне, дзе яны жывуць, праз месяц я ўжо на волі, перакажу ім за цябе прывітулькі.

— Супакойся, Санёк, — упікнуў Дзяніс. — Ты ж збіраўся завязваць.

— Я яшчэ паспею, гадоў трыццаць наперадзе, але за цябе, Дзёня, — і Санёк артыстычна грукнуў сябе ў грудзі, — я сплачу ім!

— Кожны сваё сплаціў: у аднаго дзіця памерла, а другі патануў па п'янцы. Не бывае, каб рабіў ты злое, а спажываў добрае. Ды і я нарабіў «будзь здароў» у жыцці і не адказваў. Таму вось цяпер і атрымліваю сваё, — Дзёня спыніўся і глянуў на мяне. — Шкада, што так позна разумеем элементарныя рэчы! Колькіх можна было б пазбегнуць бедаў, каб раней прыйшоў у царкву. А лепш, каб з дзяцінства, — ён учапіўся за краты і патрос іх. — Каб ніколі гэтага не бачыць!.. Чарвяк я. Такога нарабіў у жыцці... Па такіх мурзачах прайшоў...

— Што гэта такое? — запытаў я пра новы тэрмін.

— Мурзачы? Гэта дно жыцця: сэкс, наркотыкі і рок-н-рол. Ці панашаму: шлюхі, бырла і папса. Хаця, пры жаданні, і наркаты хапала...

Дзяніс узбуджана прайшоўся па дворыку:

— Ведаеш, як я жыў? Па поўнай! Калі бухаў, дык так, каб да блявоціны! Калі ўмазваўся наркатой, дык так, каб «у саплях»! Калі па бабах... Карацей, на паўабарота не рабіў нічога. І таму цяпер я вырашыў: калі мяняць жыццё, дык мяняць усё і цалкам! Бо інакш — няма сэнсу. Ды і не выйдзе інакш.

— У кожнага свае мурзачы. І ў кожнага свой цяжкі шлях да веры, — хацелася падзяліцца мне асабістым і абнадзеіць сябра. — І няхай не стае сілаў падняцца, я буду тады паўзці, паўзці, каб толькі ў гэтай калюзе не валяцца. Дык будзем, чарвякі, паўзці — мо калі і выпаўзем.

— Выпаўзем, Дзімон, — цвёрда запэўніў Дзяніс. — Нават гэтыя выпрабаванні дадзеныя нам, каб выпаўзлі. І я дзякую Богу за гэтую «дванашку»: што яно такое ў параўнанні з тым, што я знайшоў Хрыста? Вось тут, у зоне, першы раз за 25 год адчуў сябе свабодным і шчаслівым, — Дзяніс пранікнёна паглядзеў на мяне. — Лічыш, я вар'ят?

— Так, вар'ят. Для тых, што ідуць у пагібель, ты — вар'ят.

Я замаўчаў, але, каб не засмучваць светлага чалавека ды быць ужо да канца праўдзівым псіхатэрапеўтам, дадаў:

— Але я і сам вар'ят для многіх.

«Не, такіх пасвячоных людзей, — думаў я, лежачы пасля на нарах, — сярод усіх тых баракаў і камер, якія ўмудрыўся прапаўзці, не сустракаў». Можа, кепска глядзеў? Хаця наведваў пратэстанцкую суполку і ў «Шклове», і ў «Горках», але... Навывучваюць біблійных цытатаў, бегаюць ды нешта адзін аднаму даказваюць.

Дайшло да таго, што пачаў я расчароўвацца ды многіх у сэрцы асуджаць. Асабліва калі бачу: у ня-дзелю ён на малітве, а потым — цыгарэта ў зубах, і не магу яго ў натоўпе адрозніць ад любога іншага. О, тады я думаў, што стаю! «А калі ты думаеш, што стаіш, глядзі, каб не ўпаў!» (1 Кар.10:12) І я не проста ўпаў, у такі бруд зарыўся, што той, з цыгарэтаю, у параўнанні са мною праведнік! Яшчэ адзін закон быцця: калі ты думаеш, што ты нешта, ты становішся нічым.

Бо што патрабаваць ад няшчаснага, хто жыў усё жыццё ў цемры і толькі ў зоне, сярод ванітаў гэтых і нянавісці, адчуў побач прамень сонца і спрабуе да святла ісці? А калі разабрацца, ці не ўсе мы ў зоне, дзе з аднаго боку наглядчыкі, а з другога — тыя, хто жадае выжыць? Ці мала нас такіх — у гэткай жа цемры? Ва ўсялякім разе я дык дакладна. Так кажа Дзёня, гэты пасвячоны чарвяк, які свайго не шукае, нікому тэалогію не ўцірае, а ўпакорвае сэрца — толькі каб стаяць на праведным шляху, нават калі на ім і прыходзіцца ўгамоньваць асабліва борзых.

...Увайшло ў нас у парадак балбатаць, лежачы на нарах, доўга і аб усім. Бывала замаўкалі на гадзін пару, калі елі і спалі. І тады Санёк вылазіў на рэшку і выдаваў:

— Дзёня!

— Ну.

— Заводзь баркас! — гучала патрабаванне, што азначала: «Давай пабалбочам пра што-небудзь!»

— Не, Санчоус, — не згаджаўся Дзяніс, — у нас і так раты не закрываюцца.

— Скажы вось, Дзёня, як мне выграбці па вызваленні? — працягваў сваю лінію Санёк.

— Дык я адкуль ведаю, Санька? Я сам ніякі, чарвяк я. Так, Дзімон?

— Так, — адказваў я, — чарвякі мы.

Але, патрабуючы духовых парадаў, Санёк усё ж баркас заводзіў і ўцягваў нас — гадзіну-другую мы разважалі над законамі быцця. Калі ноч пераваньвала за палову, мы ўгамоньваліся. Дзяніс перад сном перабіраў пацеркі і раўнамерна, ціха і прыгожа чытаў малітвы ў сваёй адзіночцы. А я слухаў. Слухаў і маліўся таксама. Правільней сказаць, у тыя мае дні якраз стагнаў, стагнаў, як піша Павал, уздыханнямі невымоўнымі.

Аднак Санчоус вырашыў унесці разынку ў нашае спакойнае і размеранае жыццё.

*Працяг будзе.*

**Дашкевічу можна напісаць:**

230023, Гродна, вул. Кірава, 1, Турма 1.

Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

Варта пазначаць імя па бацьку Змітра, каб ліст ці паштоўка гарантавана дайшлі.

Можна таксама даць тэлеграму, прадыктаваўшы адрас на гарадскі нумар 166.

**Зміцер Дашкевіч**

Кіраўнік Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку, і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібыта за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013.

# «Літоўская кухарка» вярнулася: 400 старонак рэцэптаў

Выйшла па-беларуску класічная кніга **Вінцэнты Завадскай**.




Гэтая кулінарная энцыклапедыя ўпершыню выйшла ў 1854 годзе. Яна пісалася як патэнцыйны бестселер і ім заслужана стала. Яе поспех быў ашаламляльны. Яна вытрымала сама меней 15 перавыданняў!

«Некаторыя чытачы запытаюць: чаму ж кнігу пра беларускую кухню аўтарка назвала «Літоўская кухарка», — тлумачыць у прадмове да выдання перакладчыца Наталля Бабіна. — Справа ў тым, што да XIX ст. Беларусь называлі Літвой, бо нашы землі ўсё яшчэ ўспрымалі найперш як цэнтр Вялікага Княства Літоўскага. Адсюль і назва». Выдавецтва «Харвест» палічыла вартым даць перавыданню загаловак «Літоўская кухарка»: першая беларуская кулінарная кніга».

У тыя часы адукаваны пласт насельніцтва ў нашай краіне атрымліваў адукацыю па-польску, таму кніга была напісана на гэтай мове. Але рэцэпты адпавядалі густам і магчымасцям жыхароў (і жыхарак) тагачаснай Беларусі. Адпаведна, аўтарка сабрала і стравы штодзённыя — баршчы, бульбу, хлеб, — і стравы святочныя для магнацкага стала: вугор фаршыраваны, курапаткі з маслам з хамсы, зразы завіваныя літоўскія, торт венскі...

### Штуфады, руляды...

Разбягаюцца вочы ад кулінарнае разнастайнасці: супоў і халаднікоў — 77, соусаў — 40, страваў з гародніны — 64, з рыбы — 72... Штуфады, шынкі, руляды, мелышпэйзы...

Калдуны, клёцкі, халаднікі — чытаеш і раптам прыгадваеш бабуліну кухню. Акурат гэта нашы бабулі і гатавалі! І хочацца паўтарыць, аднавіць тое, што ад дзяцінства не еў.

### «Гаспадыня» і «Кухарка»

«Чакайце, а «Літоўская гаспадыня», якую для беларускага чытача вярнуў Мальдзіс, гэта не тое самае?» — запытаеце вы. Не, гэта дзве розныя кнігі. «... Гаспадыня» — гэта кніга парад па вядзенні гаспадаркі. А «... кухарка» — чыста кулінарная кніга.

Цікава, што і першую, і другую апублікаваў той самы чалавек: Адам Завадскі, патомны віленскі выдавец. Той самы, хто выпусціў таксама першыя кніжкі Дуніна-Марцінкевіча. А Вінцэнта Завадская была не кім іншым, як ягонай жонкай.

«Літоўская гаспадыня» была грунтоўнай энцыклапедыяй па вядзенні гаспадаркі: як лячыць авечак, як сушыць грыбы... Яна выйшла ў 1848-м, на шэсць гадоў раней за «Літоўскую кухарку». Аўтарства «Гаспадыні», выдадзенай ананімна, таксама прыпісвалі Вінцэнце Завадскай, аднак гісторык Адам Мальдзіс давёў, што «Гаспадыню» склала жонка маршалка Барысаўскага павета і маці будучага паўстанца 1863 Ганна Цюндзявіцкая. Аўтарства яна не пазначыла, бо складаць такія кнігі жонцы маршалка было «непрэстыжна». Так лічыць Мальдзіс.

Магчыма, менавіта поспех «Літоўскай гаспадыні» падказаў выдаўцу і ягонай жонцы, што выключна кулінарная кніга ў разліку на беларускіх гаспадынь таксама будзе запатрабаванай. «Яе заслуга ў тым, што яна добрасумленна сабрала з тагачасных кніжак усе даступныя рэцэпты», — кажа Мальдзіс.

### Ідэя айца Надсана

Як нарадзілася ідэя перавыдаць Завадскую? Некалькі гадоў назад у Рэдакцыю «Нашай Нівы» ў часе аднаго са сваіх прыездаў у Беларусь заехаў паблаславіць айцец Аляксандр Надсан, захавальнік унікальнай Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане. Як заўжды, ён жыва цікавіўся навінамі культурнага працэсу. Між словам, мы расказалі яму, што ў серыі «Кнігарня «Нашай Нівы» поспех мела «Наша страва» Алеся Белага. Сённяшні чытач шукае не містычнай, а практычнай беларушчыны. Ён хоча «спажываць» па-свойму, па-беларуску. І менавіта ў такой прадукцыі цяпер патрэба.

Айцец Надсан адразу зрэагаваў: ёсць у калекцыі бібліятэкі дзве кнігі, якія не выходзілі па-беларуску. Гэта кніга Вінцэнты Завадскай і больш складаная кулінарная кніга кухара Сапегаў. З той ідэі лонданскага інтэлектуала і пачалася праца над перакладам Завадскай.

### Без скарачэнняў

«Літоўская кухарка» — рэдкі выпадак, калі гістарычны помнік выйшаў у прыгожай абгортцы камерцыйнападарункавага выдання.

Перад ілюстратарам і перад перакладчыцай стаялі няпростыя задачы: падаць кнігу так, каб захаваць яе гістарычную каштоўнасць і ў той жа час зрабіць яе прывабнай для нашых сучасных Адэлек і Марыек.

Здаецца, і перакладчыцы, і выдавецтву тое ўдалося.

«Мы спраўджвалі змест па выданнях 1938 і 1911, ніякіх скарачэнняў не рабілі, бо стаяла задача захаваць тэкст як гістарычны помнік, — кажа Бабіна. — Не папраўлялі, нават калі ў рэцэптуры былі нейкія памылкі. Але тады рабілі заўвагі перакладчыка: вось тут, напрыклад, трэба страву пасаліць, але пра гэта не пішацца, або з рыбы трэба жабры выбраць, але пра гэта аўтарка не піша. Для тагачасных гаспадынь гэта было само сабой зразумела, а цяперашняму чытачу варта тое падказаць».

Кніга мае вялікі фармат, у ёй мноства ілюстрацый. Выдаўцы падумалі нават пра гатунак паперы: 400-старонкавае выданне надзіва лёгкае.

Рэдкаўжываныя тэрміны сабраныя ў спецыяльны слоўнічак. Таксама ў кнізе ёсць малы даведнік даўніх мераў вагі і ліку, выкарыстаных у кнізе. Але ўся рэцэптура пададзеная ў зручных для сённяшніх гаспадыняў грамах і літрах.

Зараз камусьці трэба ўзяцца яшчэ за кнігу Сапегі. А таксама напісаць новую беларускую кулінарную біблію — з улікам ведаў XX і XXI стагоддзяў, «Моцы смаку» Юрыя Качука і «Нашай стравы» Алеся Белага...

Кніга ж Завадскай можа стаць вялікім камерцыйным поспехам мінскага выдавецтва «Харвест». Грунтоўную кнігу рэцэптаў — ды па-беларуску, ды з гістарычным прысмакам — расхапаюць на падарункі.

**Чытач**

**Каўбасы ў піве на сняданак**

1,25—1,5 кг каўбас, 0,5 сталовай лыжкі масла, 2 цыбуліны, 0,75 літра піва, 2—3 лоты (25—40 г) сухога булёну, трэцяя частка лімона, жменька мукі.

Свежыя каўбасы пакласці ў каструлю, заліць лёгкім півам так, каб каўбасы былі пакрытыя, дадаць кавалак масла, [кубікі] сухога булёну, цыбулю і тушыць, пакуль не выпарыцца вадкасць, сочачы, каб не падпаліць каўбасы.

Напрыканцы варкі можна дадаць некалькі кружочкаў лімона і жменьку мукі (да таго, як выпарыцца соус).

**Грушы як гарнір**

5—6 груш. 1—2 цёртыя сухарыкі. 1 сталовая лыжка масла

Даспелыя грушы (лепш меней салодкіх гатункаў) абабраць, разрэзаць на чатыры часткі, адварыць у кіпні і абліць растопленым маслам з сухарамі.

Грушы трэба падаваць, калі падаюцца і іншыя гатункі гародніны, разам з імі у адным паўміску.

**Марожанае з яблык або груш**

10 яблыкаў, 0,5 кг цукру, 5 шклянак вады, 3 лімоны

На гэтае марожанае найлепшыя яблыкі ранеты або ананасавыя, грушкі бэры або бергамоты, але, калі іх няма, можна выкарыстаць звычайныя яблыкі і грушы, сапяжанкі або цукроўкі.

Закіпяціць ваду з цукрам. Калі на марожанае з яблыкаў, то з большай яго колькасцю, чым на марожанае з груш. Надраць на тарцы [або ў камбайне] дзесяць яблыкаў або пятнаццаць груш, расцерці гэта качалкай, сіроп вымешаць, адціснуць праз сурвэтку. Уліць сок з трох лімонаў і замарозіць у форме.

У гэтае марожанае трэба дадаць лімонную цэдру або нейкі духмяны алей для паху ў тым выпадку, калі грушы ці яблыкі не досыць духмяныя.

---

## Дзе варта быць

**Раскопкі ў Крэве**

Да 10 жніўня далучайцеся да археалагічных раскопак у старадаўнім Крэве! Бярыце спальнік, намёт і добры настрой. Кантактныя тэлефоны: (029) 575-69-47 (МТС), (029) 626-69-47(«Вэлком»), Ганна. Электронная пошта: kreuskizamak@gmail.com.

## Сцісла

**У Мінск едзе Эніа Марыконэ**

Славуты кампазітар выступіць у «Мінск-Арэне» 8 лістапада. Марыконэ шырока святкуе 85-годдзе: разам з Sofia Symphony Orchestra аўтар легендарных саўндтрэкаў праедзе па свеце з турам.

**Стол Караткевіча будзе стаяць у «Логвінава»**

Знайшоўся новы гаспадар для стала Уладзіміра Караткевіча. Літаратар і мастак Адам Глобус аддаў стол, за якім класік напісаў «Чорны замак Альшанскі», у кнігарню «Логвінаў» (пр.Незалежнасці, 37а).

**Беларусь у этнаграфічных межах**

У Смаленску ў 1897 г. больш за 50% насельніцтва лічылі сябе беларусамі, у Бранску ў падручніках можна ўбачыць «Пагоню» — пра ўсё гэта піша старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў у кнізе «Невядомая нам краіна», выдадзенай па-беларуску і па-англійску. Цэлы раздзел там прысвечаны Сярэдняй Літве — дзяржаве, якая існавала менш за два гады, але цяпер не згадваецца ў падручніках.

**«Помнік Каліноўскаму не прадугледжаны»**

Ініцыятыўная група сабрала 4000 подпісаў за ўсталяванне ў Мінску помніка Кастусю Каліноўскаму. Аднак з гарвыканкама ім прыйшоў адказ: «Устаноўка помніка Каліноўскаму ў Мінску не прадугледжана».

**ЗП, ЮУ**

# Курапаты ўчарговы раз нішчаць зламыснікі

У чарговы раз Курапаты становяцца безабароннай ахвярай цемрашалаў, якія па-вар'яцку нападаюць на святыя сімвалы і памятныя знакі, усталяваныя на месцы згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1937—1941 гадоў. Нагадаю, Курапаты ад 1993 знаходзяцца ў Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і з'яўляюцца помнікам першай катэгорыі, гэта значыць павінны ахоўвацца дзяржавай.

Сляды і вынікі вандалізму я ўбачыў раніцай 4 жніўня. Найбольш пацярпеў вялікі жалезны крыж, які ўсталявалі ў памяць пра забітых у Курпатах палякаў. З яго раз'юшана здзекаваліся. Спрабуючы адарваць металічныя шыльды на крыжы, моцна іх пагнулі і скамечылі. Вакол крыжа ў радыусе некалькіх метраў валяюцца параскіданыя кветкі, свечкі, памятныя стужкі і вянкі. На траве ляжыць зрынуты абраз. Па кветніку каля крыжа шалёна патапталіся.

Вышэй, на Курпацкай гары, ляжаць зламаныя крыжы. Некаторыя з іх наўмысна растушчылі і раскрышылі на кавалкі. Знішчана болей за 10 крыжоў, у тым ліку з шыльдамі і надпісамі. Ламалі нават тыя крыжы, якія каля долу ўмацоўваліся жалезам. Такія крыжы здзекліва гнулі да самай зямлі, альбо вырывалі. Вандалы найбольш заўзята накідваліся на крыжы, абвязаныя белчырвона-белымі стужкамі. На дзялянцы, дзе крыжамі з белымі ручнікамі і вышытымі прозвішчамі ўшаноўваліся вядомыя беларускія пісьменнікі, паэты, публіцысты, якіх закатавалі ў НКВД, ляжаць паваленыя крыжы ў памяць Алеся Баліцкага (1891—1937) і Тодара Кляшторнага (1903—1937).

Клумбачку каля «Лавы Клінтана», мемарыяльнага каменнага знака, які быў усталяваны амерыканцамі ў дзень наведвання Курапатаў прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, стапталі так, што каля яе цяпер голая ўтрамбаваная пляцоўка, побач валяюцца павырываныя чырвоныя кветкі.

У дзеяннях зламыснікаў чытаецца палітычны кантэкст. Свой шал яны скіравалі найперш на крыж палякаў, на крыжы з нацыянальнай беларускай сімволікай. Пацярпелі крыжы ў памяць беларускага грамадскага дзеяча і публіцыста Алеся Баліцкага і беларускага паэта Тодара Кляшторнага. Прозвішча першага, відаць, нагадвала злачынцам праваабаронца Алеся Бяляцкага, які цяпер знаходзіцца ў вязніцы. Думаю, што знішчэнне другога крыжа — помста Маі Тодараўне Кляшторнай — дачцы паэта, якая нястомна рупіцца пра захаванне Курапатаў. Здзекі з «Лавы Клінтана» адбываліся ўжо шмат разоў. Відаць, злачынства рабілі асобіны, дасведчаныя ў палітычных справах, у тым ліку ў апошніх заявах заходніх дзяржпрадстаўнікоў пра беларускіх палітзняволеных, пра захады ў абарону Курапатаў і інш. Народны мемарыял, які патрабуе нацыянальнага ўшанавання, яднання ў агульнай памяці пра сотні тысяч нявінна забітых і замучаных бальшавікамі людзей, некаторым паскуднікам бачыцца «полем бітвы» з «ворагамі народа».

**Мікола Крывальцэвіч, гісторык**



## Схадзіце да ўніятаў

Даволі часта хаджу памаліцца да ўніятаў. (Яны праводзяць службу ў дольнай зале Чырвонага касцёла.) Адпачываю душой. Маё сэрца нацыяналіста адчувае лагоду ад атмасферы шчырай беларускасці.

Усе малітвы, казанні, спевы і размовы — толькі па-беларуску. Святары заклікаюць: памолімся за нашу краіну Беларусь, за беларускі народ...

І параўноўваю. Як зайду ў праваслаўную царкву, чую: «Помолимся за московского патриарха Кирилла...» Адразу ж душа адмаўляецца прымаць такія заклікі і ўсю гэтую атмасферу.

Хачу з вашай дапамогай запрасіць нашых людзей, асабліва тых, хто пачувае сябе беларусамі: схадзіце да ўніятаў!

Знявераны люд, прабачай ты ім, Божа,
Бязмоўны, забіты штодзённай хлусней,
Рабства свайго ўсвядоміць не можа,
Толькі гарүе над доляй сваёй.

Мячом і пагардай нам нішчылі веру,
З размаху, шырока, як косяць траву,
Шалёна, з пляча з азіяцкім ашчэрам
Маскоўцы вякі выразалі Літву.

І затапталі, і Край наш забралі,
Пасеклі ў Сафійцы святой святароў.
Храмы святыя канюшнямі сталі,
У людзей на стагоддзі спынілася кроў.

Людцы, зайдзіце жа да ўніятаў
У нашу святыню — Чырвоны касцёл,
І вашая вера нясмелай, зацятай
Цялятку надыдзе свяшчэнны ацёл.

З парасткаў тых, што ледзь-ледзь прарастаюць
На горкай зямлі, на пакутнай Літве,
Жыве наша вера, напраўду святая,
Унія наша напраўду жыве!

**Ян Грыб, Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Геній без грамадзянства**

Піша **Павел Севярынец**.

*Яна пайшла
і абвясціла тым,
Што былі з Ім, што
плакалі і галасілі,
Але яны, пачуўшы,
што Ён жывы
І яна бачыла Яго —
не паверылі.
Марка 16:10-11*



**Павел Севярынец** палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

У лістах у камендy мне часта дасылаюць вершы. Купалу, Багдановіча, Караткевіча, Гілевіча, Барадуліна... Але *яе* вершаў больш, чым астатніх. Можа быць таму, што яна хрысціянка з празрыстым сэрцам. Можа таму, што пасля допытаў Цанавы і катаванняў у «амерыканцы» яна восем гадоў гніла ў страшнай ссылцы на Поўначы. А можа, проста таму, што адмовілася ад савецкага грамадзянства, казала «Не!» і Максіму Танку, і Аляксею Карпюку, і Паўліне Мядзёлцы — і не дачакалася рэабілітацыі ані са смерцю тырана, ані з «адлігай», ані нават з развалам імперыі.

Гэты ўсё яна, беларуская глыбіня... Ціхія ліцвінскія ваколіцы, скрозь у крынічных заблытаных рэчках, дрымотных правалах пушчаў і светлых узгор'ях з могілкамі на вяршынях. Самае месца для таго, хто верыць у Бога, любіць сваю краіну і не здаецца злу. Для генія беларускага Евангелля.

Толькі тады, калі на пахаванне Ларысы Геніюш у красавіку 1983 прыйшлі тысячы жыхароў Зэльвы, прыехалі мінчукі, гарадзенцы, берасцейцы, пісьменнікі, мастакі, колішнія вязні і моўчкі, пад прыцэлам гэбоўскіх камераў, ішлі следам за яе труной — а яна плыла, цякла, як рака, ціха склаўшы рукі на замерлым сэрцы, гледзячы ў неба, — толькі тады, запозна, яны дапялі, чаму яна ўсё-такі адмаўлялася.

Потым хлопец, што пад выглядам пажарнага ставіў «жучкі» ў яе на гарышчы, будзе каяцца. Потым вядома хто *невядомы* будзе начамі выломваць са сценаў мемарыяльныя шыльды, а савецкая ўлада запатрабуе знесці помнік з «Пагоняй» і малітвай гулагаўскіх вязняў — «Божа, барані Беларусь!», — пастаўлены ля царквы, дзе яе адпявалі.

А жывой... Абяцалі кватэру ў Мінску. Пісьменніцкую пенсію 100 рублёў. Публікацыі. Выданні ў Маскве. Усяго адна пячатка — і... Ды такія шаноўныя людзі... Сябры...

Як там: «Я другой такой страны не знаю...» А яна пісала: «З пекла ўпала на голаў мне ўся гэта эсэсэсэр».

Для кожнага з іх, людзей з савецкім штампам, згода Геніюш азначала б камень з душы. Апраўданне. Геніюш — савецкая грамадзянка? Значыць, няма чаго мучыцца згрызотамі. Значыць, і хлусню, і бязбожжа, і беспрасвецце можна пакласці на захаванне ў глыбокую беларускую скарбонку: «Значыць, так і трэба».

Згода Геніюш азначала б, што і пра дэпартацыю разам з мужам Янкам з Чэхаславаччыны, і пра турмы, этапы, допыты і катаванні, і пра таёжную сцюжу, і голад, і зацкаваных аўчаркамі зэкаў, і пра тысячы «дахадзягаў», забітых у Інце, і пра маўчанне тых, хто «на волі», і пра вынішчаную бальшавікамі сям'ю — пра ўсё гэта можна проста забыцца.

І што ласкавая мянушка «Маці», прышчэпленая ў бараках, і вершы, каторыя вязні называлі «глюкозай» ды завучвалі на памяць, і лісты, што перадавалі на «вольную зямлю», схаваўшы ў вагонах з вугалем, і абраз Ісуса ў церні, намаляваны на падваконні ў камеры на Вялікдзень, і таемна напісаная «Споведзь» — усё гэта было пустое.

І што пасада генеральнага сакратара БНР і захаванне архіва, цяпельца беларускай незалежнасці, не падлеглай ані бальшавікам, ані дэфензіве, ані нацыстам, і сама светлая мара пра вольнасць — гэта было марна.

Таму яна і паўтарала: «Не, не, не!» І ў сваім задубелым на паўночных маразах тварэ, у высечаных пакутамі зморшчынах знаходзіла ласку, цяпло і ўсмешку для тых, хто побач. Выцягвала з роспачы знясіленых беларускіх мужчынаў. Пісала адмыслова для Барадуліна верш «Не пі, Рыгор! Не пі, сынок...» — і той кідаў тапіць свой геній у гарэлцы. Дасылала літкансультанту «Гарадзенскай праўды» Васілю Быкаву свае вершы, якія той набіраў на друкарцы і паціху даваў у газеты. Расплюшчвала вочы маладому Уладзю Караткевічу, які слухаў яе аповеды пра светлую савецкую рэчаіснасць і рэдагаваў зборнік «Невадам з Нёмана». Пісала тысячы лістоў, у якіх падбадзёрвала зморaных і перадавала веру адчайным.

І штовесну разбівала ля хаты найлепшы ў Зэльве кветнік.

Вось чаму Аляксандр Кацікаў з «Песняроў» запісаў цэлы альбом «Жывём» на словы Геніюш, а апошняй песняй, выкананай Уладзімірам Мулявіным, стала ейная «Краю мой родны». Вось чаму адным з пароляў вольнага руху ў 2006-м зрабіўся музычны дыск «Жыць для Беларусі» са спевамі на яе вершы, перабітымі ўнікальным аўдыё: Геніюш чытае сама. Колькі жыцця ў ёй, асуджанай на паміранне, — душа мімаволі агукне: «Жыве!.»

Ці мала моцных мужчынаў-беларусаў у крывавай чавільні ХХ стагоддзя ўцякло за мяжу? Не паднялося з бруду? Спілося? Скончыла жыццё самагубствам? Адкуль жа ў слабай, інтэлігентнай жанчыны, у чые далікатныя рукі паэткі трапілі ключы беларускай дзяржаўнасці, узялося столькі сілаў: не пакінуць Радзіму, быць разлучанай з адзіным сынам, цярпець штодзённы здзек — і не прыняць пячатку звера?

Сярод здрадаў і смерцяў, пад наглядам ды ўціскам, калі і працаваць дазвалялі адно прыбіральшчыцай, і тое нядоўга — не ў замкнёным, утоеным, а ў адкрытым хрысціянстве, якое свеціць і дае каўток забароненай волі ўсім, — верніца Ларыса Геніюш засталася геніем нацыянальнай ідэі. Жывым сведчаннем вечнай беларускай ахвярнасці, чысціні і ласкі. Нават паміж ворагаў — цвёрдай, але любоўнай і натхнёнай. Прыгожай той зняверанай, але нескаронай прыгажосцю, якая вось ужо 1000 гадоў выяўляе на гэтай зямлі Укрыжаванага ў чаканні бел-чырвона-белага ўваскрасення.

І як коліс Святое Прычасце
З яснай чашы ля Царскіх варот,
П'ю свой боль як вялікае шчасце
За пакутны каханы народ.

У той час, калі разбягаліся нават найлепшыя вучні, калі люд хаваўся па хатах, калі падалі апошнія ваяры — менавіта такія матулі веры, сёстры надзеі, дочкі любові, жанчыны беларускай глыбіні каўталі слёзы ды асвятлялі бліскучымі вачыма крыж, дзе здабываў для нас, беларусаў, святасць Госпад Ларысы Геніюш Ісус Хрыстос.

*Куплін*

**А яна пісала: «З пекла ўпала на голаў мне ўся гэта эсэсэсэр»**



# Уладар падводнай Беларусі

*Сом адкрыў нараду,*
*Выступіў з дакладам,*
*А язь сакратарый,*
*Сеўшы з сомам радам.*
Якуб Колас. Рак-вусач. 1938.

Што здаецца нам пачварным? Зазвычай тое, што не адпавядае нашым уяўленням пры звычайнасць.

Чытаючы кнігі пра прыроду далёкіх краёў, гартаючы альбомы з пярэстымі карцінкамі, напоўненымі рознымі пачварамі, мы захапляемся далёкім светам тропікаў, што падаецца нам неверамна прыгожым і неверамна ж небяспечным... Прыкладна так і ёсць. Але ў тых краях жывуць цяпер мільярды людзей, а месца для тамтэйшых пачвараў і пачварыкаў усё меней.

У нашай краіне людзей менее, пусткі парастаюць лесам, колішнія асушаныя балоты ізноў становяцца часткаю прыроды. І тут, паміж пустак, балот беларускай зямлі, на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай, цікаўнаму воку можа трапіцца багата ўсяго незвычайнага, то бок амаль пачварнага. І дзеля такое сустрэчы няма патрэбы ехаць аж, напрыклад, у Афрыку.

Ці часта вам даводзілася бачыць сапраўднага сома? З мяккай і слізкай скураю. З вялізарнай пляскатай галавою. З маленькімі вочкамі абапал шырачэзнае зяпы.

Мала хто з нас, сухапутных істотаў, можа ацаніць разнастайнасць яго афарбоўкі: ад амаль чорнае да залаціста-аліўкавае, з плямамі на баках. А вось трыбушыска ягонае амаль заўжды бялюткае, часам з залацістым адлівам...

## Самы — ненажэрныя драпежнікі

**Скура**

У сома тоўстая слізкая і без лускі, што дазваляе яму лёгка плаваць між водарасцяў.

**Пашча**

У ёй — толькі дробныя зубы, таму сом заглынае здабычу цалкам.

**Вусы**

Шчыльныя, мяккія і гнуткія, яны абсталяваныя рэцэптарамі дотыку і смаку — імі сом «бачыць» лепей, чым падслепаватымі вачыма.

**Хатні ласось з вэнджанага сома**

Нашы продкі лічылі мяса сома далікатэсным і прыдатным для вырабу такіх спецыялітэтаў, як, напрыклад, ласосіна з сома.

Свежага сома выпатрошваюць і выціраюць сурвэткай, соляць, як звычайна ўсялякую рыбу, але на кожную палову кварты (500 гр) солі дадаюць тры чвэрці лота (9,6 гр) салетры. Праз тры-чатыры дні адразаюць рыбіне галаву, вымаюць костку з хрыбта, а сома рэжуць на чатыры паласы ўздоўж і вывешваюць на вольнае паветра, каб яны падсохлі ў цяньку. Два-тры месяцы сома падаюць на стол (на снеданне) замест ласосіны, пакуль пачне ялчэць. Калі ўжо стане непрыдатны да закускі, выкарыстоўваюць у пост для супоў, пірагоў з начынкай. Вешаюць рыбу за хвост, бо ў ім найбольш тлушчу, што, сплываючы на іншыя часткі, надае сому крохкасць і смак.

Можна таксама выняць рыбу з солі, старанна абсушыць, укруціць у паперу, каб знізу праходзіў дым, і павесіць хвастом уверх у халодны дым на тры — пяць дзён. Вэнджаны сом захоўваецца даўжэй.

**«Літоўская гаспадыня»**

## Голымі рукамі не возьмеш

Сом — сапраўдны валадар падводнай Беларусі. Калі сквапнага драпежніка шчупака можна параўнаць з ваўком, дык магутны сом — як мядзведзь ці зубр.

Праўда, велічыня сома наўпрост залежыць ад клімату, у якім ён жыве і гадуецца. У прахалоднай Карэліі сом не расце большым за 10 кг, а ў цёплым Дунаі, кажуць іхтыёлагі, ён можа дасягаць пяці метраў даўжыні і трохсот кіляў вагі! Вось такія нацыянальныя рысы самоў звычайных.

У Беларусі ж можна даволі дакладна пералічыць вагу сома на ягоны век. У 1 год гэта будзе 20—30 см ды 100—200 грамаў вагі, а даўжыня 15-гадовай рыбіны будзе каля двух метраў і заважыць яна 50—64 кг. Гэта значыць, той 57-кілаграмовы сом, пра якога згадваў Лукашэнка, быў такога веку. Дзіця незалежнае Беларусі! Насуперак байкам, беларускі сом жыве не сто і не трыста, а ўсяго блізу 35 гадоў.

**Лукашэнка сцвярджае, што злавіў сома вагой 57 кілаграмаў**

Кіраўнік Беларусі на нарадзе, якая прайшла 30 ліпеня, распавёў пра рыбалку на Прыпяці: «Палец сунеш, за палец рыба хапае! Я асабіста… 57 кілаграмаў сома выцягнуў: 57, 24 і 7 кілаграмаў. Трох самоў злавіў!»

Прысутны на нарадзе віцэ-прэм’ер Міхаіл Русы пажартаваў: «З мяне ростам». «Ну не вагой жа», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін нядаўна злавіў у Туве «гіганцкага шчупака», але яго вага толькі 21 кг. Аповед пра самоў многія палічылі пакепліваннем з Пуціна. Інтэрнэт-жартаўнікі адказалі на заявы шквалам пародый.



Лавілі самоў-гігантаў спецыяльнымі вудамі, нератамі, сеткамі, а найчасцей — білі восцямі. З голымі рукамі да сома лепей не сунуцца. Зубы ў яго хоць і дробныя — разлічаныя не на тое, каб адкусіць, а на тое, каб утрымаць, — затое ў два рады. Не абыдзецца без парэзаў і дробных ранаў. Можна, вядома, у пальчатках, але рызыка занесці ў ранку інфекцыю і нават страціць пальцы ўсё адно вялікая: раптам трапіцца 70-кілаграмовы экзэмпляр?

## У межах Варшаўскай дамовы

Самы пашыраны і спрадвечны від беларускіх самоў — Silurus glanis. Сом звычайны або еўрапейскі. Хоць і завецца ён еўрапейскім, аднак жыў толькі ад Урала да заходняй мяжы ГДР і за межы колішняй Варшаўскай дамовы выйшаў толькі ў апошнія дзесяцігоддзі. Цяпер еўрасамы борхаюць у твані затокаў Італіі, Францыі і нават далёкай Іспаніі.

Што праўда, пабачыць сома ў яго натуральным асяроддзі нават з дапамогай акваланга цяжка. Рыбіна надзейна хаваецца ў норах, *вірах сваіх* і толькі ўначы соваецца па вадаёмах, шукаючы спажывы.

Самы, дарэчы, ненажэрныя драпежнікі. Яны здабываюць спажыву пераважна з засады — пры набліжэнні ахвяры знянацку ўцягваюць здабычу ў вялізную пашчу з моцным струменем вады. У пашчу сома можа трапіць не толькі рыбіна ці якая няшчасная жаба, але і розныя прыводныя жыхары, ад куторы да хахулі, а таксама птушкі і нават неабачлівыя сабакі! Апісаныя выпадкі, калі ў вантробах самоў знаходзілі чалавечыя парэшткі... Праўда, каб пакваліцца на чалавека, сом, нават пры сваёй рэкорднай пашчы, мусіць мець адпаведную ўмяшчальнасць: быць не меней за два з гакам метры ў даўжыню! І такія трапляюцца ў беларускіх водах... Хоць такому схавацца ад фатографаў ужо амаль няма дзе: беларусы масава выкладаюць у інтэрнэт здымкі са злоўленымі самамі-гігантамі.

## І клей, і шыбы

Сом — спрадвечны персанаж беларускага фальклору ды літаратурнае класікі. Памятаеце бойку за рыбіну ў Караткевічавым «Хрысце»: «Вялізны сом сажня ў паўтара — калі не ў два — даўжынёй. Відаць, ён заблытаўся ў адну мярэжу, пацягнуў яе, наскочыў на другую і зблытаў іх. Сом гэты біўся, раскрываў шырокі рот, плямкаў грыбамі, варушыў вусамі і вытрэшчваў маленькія вочы».

Каларытны выгляд сома стаў падставаю для шматлікіх твораў нашага мастацтва — ад нацюрмортаў Івана Хруцкага да сузор’я кніжных графікаў ХХ стагоддзя — Валянціна Ціхановіча, Анатоля Волкава, Яўгена Куліка, Уладзіміра Савіча, Міколы Купавы, якія стварылі цэлую галерэю вобразаў Сома.

Сом спрадвеку знаходзіў прымяненне і ў народнай гаспадарцы беларусаў. Яго не толькі елі. Колісь, як не было шкла, зацягвалі вокны сомавай скурай. А з плавальнага пухіра варылі выдатны клей!

Дарэчы, пра гастранамічныя якасці. Часта кажуць, што сомавае мяса тхне тванню. Але той, хто каштаваў свежую саміну, ніколі не пагодзіцца. Яна, наадварот, вельмі далікатная, амаль без костак, але, што праўда, тлуставатая. Аднак гэта справа густу.

Дарэчы, насуперак стэрэатыпам, сом не любіць гразі. Ён у дажджлівае надвор’е нават падымаецца да паверхні, дзе вада трохі чысцейшая.

## Канкурэнты амерыканскія і афрыканскія

Апроч нашае спрадвечнае тутэйшае пачвары — еўрасома, у беларускіх водах у міжваенны час завёўся і амерыканскі сом — плямісты, ад жаўтаватага да чорнага колеру з чатырма парамі вусоў на шырокай зяпе ды з шыпамі на плаўніках. Дзіва, што такая істота не выклікае на Берасцейшчыне, дзе ён спакойна жыве, асаблівага даверу. Таму і не ловяць! А з тае самае Афрыкі ў апошнія гады завезлі і афрыканскіх самоў — кларыясаў. Іх лепей разводзіць, бо, у адрозненне ад нашых самоў-індывідуалістаў, могуць жыць у цяснейшых умовах, у вадзе з меншым утрыманнем кіслароду. Але ў даўжыню тыя афрыканскія пачвары сягаюць усяго 170 см і вагою ледзь дацягваюць да 60 кг. Куды ім да нашых!

**Сяргей Харэўскі**

# Беларусь — Чарнагорыя



14 жніўня ў Жодзіне на стадыёне «Тарпеда» пройдзе таварыская гульня паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Чарнагорыі. Пачатак а 18:30. Білеты — 20—25 тысяч рублёў.

## ФУТБОЛ

### «Трабзонспор» — «Дынама»




**8 жніўня сталічнае «Дынама» і «Мінск»** правядуць матчы ў адказ у Лізе Еўропы. У першых сустрэчах абедзве нашы каманды прайгралі з аднолькавым лікам — 0:1. «Дынама» правядзе сустрэчу ў Турцыі з «Трабзонспорам», а «Мінск» — у Шатландыі з «Сэнт-Джонстанам». Трансляцыі можна будзе знайсці ў інтэрнэце.

### БАТЭ — «Шахцёр»

**10—11 жніўня** пройдуць матчы 20 тура чэмпіянату Беларусі па футболе. У суботу сустракаюцца:
«Дынама» (Брэст) — «Дняпро» (Магілёў);
«Нёман» (Гродна) — «Гомель»;
«Белшына» (Бабруйск) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна).
У нядзелю:
«Мінск» — «Нафтан» (Навапалацк);
БАТЭ (Барысаў) — «Шахцёр» (Салігорск) — цэнтральная сустрэча тура, сустракаюцца лідары чэмпіянату.
«Славія» (Мазыр) — «Дынама» (Мінск).

## ІМПРЭЗЫ

### Мілітар-2013

**17 жніўня а 16-й у мінскім забаўляльным парку Dreamland** пачнецца фестываль альтэрнатыўнай музыкі «Мілітар-2013». Бяруць удзел Biopsyhoz, Irdorath, Tim Erna, «Без Панікі», «Мутнаевока», Equilis, At the Otherside, Alexander Kiss & «Attraction», Re1ikt, эксперыментальны тэатр-студыя «К.О.Д.А.»

## КАНЦЭРТЫ

### Вольнае паветра

**24 жніўня на хутары «Шаблі» (Валожынскі раён)** пройдзе штогадовы фестываль «Вольнае паветра». Бяруць удзел Re1ikt, Kriwi (Беларусь), Масуд Талібані (Беларусь-Курдыстан), Feindrehstar (Германія), Theodor Bastard (Расія), Namgar (Расія).

### Гарык Сукачоў

**25 жніўня а 19-й у Robinson Club (траса Мінск—Маладзечна, за Раўбічамі)** — канцэрт расійскага рок-спевака Гарыка Сукачова з гуртом «Неприкасаемые».

### Садъ

**9 жніўня ў клубе «Графіці» (Калініна, 16)** канцэрт берасцейскага гурту «Садъ». Пачатак а 19.00. Білеты каштуюць 60 тысяч рублёў. У дзень канцэрта — 80 тысяч.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава трох абразоў

**Да 26 жніўня ў Мастацкім музеі** працуе выстава трох абразоў са збораў найбуйнейшых музеяў Беларусі — Полацка, Гродна і Мінска, — прымеркаваная да 1025-годдзя Хрышчэння Русі. На выставе будуць прадстаўленыя «Троіца старазапаветная» (Гасціннасць Аўраама) XVIII стагоддзя з Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, «Спас Уседзяржыцель» XVIII стагоддзя са збору Нацыянальнага мастацкага музея, «Не рыдай Мяне, Маці» сярэдзіны XIX стагоддзя з Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі.

### Летапіс жыцця народа

**Да 26 жніўня ў Нацыянальнай бібліятэцы (зала выяўленчых і відэадакументаў, пам.307)** працуе выстава «Летапіс жыцця народа», прысвечаная 85-годдзю Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». На выставе прадстаўленыя кнігі і артыкулы, прысвечаныя беларускаму кінамастацтву. Сярод экспанатаў можна ўбачыць рэжысёрскія сцэнары вядомых карцін…

### Выстава аўтарскай лялькі

**Да 15 верасня** праходзіць выстава аўтарскай лялькі Кацярыны Пуставалавай у Дзяржаўным музеі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны зав., 5). Увасабленне візуальнага вобраза лялькі, стварэнне «новага свету» — асноўная задача мастака. Яе работы непарыўна звязаны з тэатральным мастацтвам, у якім жывуць і дзейнічаюць яе героі.

### Выстава Уладзіміра Акулава

**Да 24 жніўня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (Незалежнасці, 47)** у межах персанальнай выстаўкі прадстаўлены творы графікі і жывапісу Уладзіміра Акулава апошніх гадоў з асабістай калекцыі аўтара, а таксама з прыватнага збору калекцыянера і мастака Андрэя Плясанава.



### Выстава «Прэс-фота Беларусі—2013»

**Да 21 жніўня ў галерэі Tut.by (Харужай, 1а, 6 паверх)** адбываецца выстава «Прэс-фота Беларусі—2013» з найлепшымі працамі фатографаў у сферы медыя.

### IQ48 у TNT Rock Club

**9 жніўня ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** пройдзе канцэрт гуртоў The Road Dogs і IQ 48. Пачатак а 22:00.




## КІНО

### Кілеры на экскурсіі

Рэд 2
Баявік, камедыя
**Рэжысёр:** Дзін Парыза

**У ролях:** Брус Уіліс, Джон Малкавіч, Мэры-Луіз Паркер, Хэлен Мірэн, Энтані Хопкінс, Лі Пюн Хун
ЗША, Францыя, 116 хв.

Пасля інсцэніроўкі смерці свайго найлепшага сябра Марвіна былы агент ЦРУ Фрэнк Моззэс, хоць і выйшаў на пенсію, вымушаны ўзяцца за новую справу.
У інтэрнэт трапілі звесткі пра зброю масавага знішчэння — праект «Паслён», распрацаваны ў час «халоднай вайны» геніяльным навукоўцам (да праекта Фрэнк таксама меў дачыненне). Бомбу прагнуць атрымаць урады розных краін, і таму распачынаюць паляванне і на Фрэнка з Марвінам, Сару (каханку Фрэнка), і на навукоўца.
Масцітыя акторы працягваюць гуляцца ў баевікі 1980—90-х, дадаючы ў жанр шмат гумару. На працягу фільма глядач разам з героямі пабачыць Нью-Ёрк, Парыж, Лондан, Маскву і зноў Лондан. Кілеры, у якіх замоўлена забойства Фрэнка, як адзін пераходзяць на яго бок і гатовыя супрацьстаяць агульначалавечай пагрозе. Стужка поўніцца гумарам: асноўны акцэнт зроблены на ўзаемаадносінах між героямі. Бойкі добра пастаўленыя, захапляюць таксама і аўтамабільныя трукі.

**Настасся Уласава**



# Першы раз — у беларускамоўны клас

**У бацькоў, дзеці якіх сёлета ідуць у школу, яшчэ застаецца час задумацца аб выбары ўстановы адукацыі.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Згодна з Кодэксам аб адукацыі, «дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару выхавання і навучання на адной з дзяржаўных моваў Беларусі і ставарае ўмовы для рэалізацыі гэтага права». На практыцы ж падставай для таго, каб стварыць беларускамоўную групу ў садку ці клас у школе, з'яўляецца наяўнасць 20 адпаведных заяваў ад бацькоў дзяцей з аднаго мікрараёна.

У мінулым навучальным годзе з 909 тысяч вучняў школ 150 тысяч дзяцей, ці кожны шосты, навучаліся па-беларуску. Абсалютная большасць з іх навучаецца ў маленькіх сельскіх школках.

Згодна з інфармацыяй камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама, на 2013/2014 навучальны год запланаваны набор у першыя класы з беларускай мовай навучання ў наступных школах і гімназіях сталіцы:

### Заводскі раён:

**Гімназія №14**

Адрас: вул. Васняцова, 10. Тэл.: (017) 295-21-37, 295-01-33, 295-21-37.

Сайт: gymn14.minsk.edu.by.

Англійскую мову тут вывучаюць з трэцяга класа. У старэйшых класах ёсць фізіка-матэматычны і філалагічны профілі навучання.

Дзейнічаюць фальклорны ансамбль «Дударыкі», музей, студыя бальных танцаў.

Дакументы прымаюць у аўторак і чацвер ад 15-й да 19-й, у сераду і пятніцу — ад 10-й да 14-й.

### Ленінскі раён:

**Гімназія № 28** (былая сярэдняя школа №2)

Адрас: пр. Ракасоўскага, 93. Тэл.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

Сайт: sch2.minsk.edu.by.

Гімназія спецыялізуецца на паглыбленым вывучэнні французскай мовы. Па-французску выкладаюцца краіназнаўства і літаратура Францыі. З 12 гадоў дзеці ездзяць за мяжу па міжнародным абмене. Ёсць дадатковыя заняткі па інфарматыцы, фізкультуры, замежнай мове.

Прыём дакументаў у панядзелак, сераду, пятніцу з 10-й да 14-й, у аўторак і чацвер з 6-й да 20-й.

### Маскоўскі раён:

**Сярэдняя школа №60**

Адрас: вул. Карла Лібкнехта, 82. Тэл.: (017) 208-69-74, 208-57-54, 209-94-49.

Сайт: sch60.minsk.edu.by.

З першага класа ў школе вывучаецца англійская мова, ёсць фізіка-матэматычны і музычны ўхілы. У школе дзейнічаюць гурткі па інструментальнай музыцы, спевах, танцах, англійскай мове, аэробіцы, спартыўных адзінаборствах, тэатральная і мастацкая студыі, фальклорны ансамбль «Весялушкі», краязнаўчы музей.

Прыём дакументаў у панядзелак, чацвер з 8-й да 12-й, у аўторак і пятніцу — з 12-й да 16-й, у сераду — з 16-й да 20-й.

### Партызанскі раён:

**Сярэдняя школа №72**

Адрас: вул. Халмагорская, 59. Тэл.: (017) 273-95-65, 246-48-83.

Сайт: sch72.minsk.edu.by.

З трэцяга класа вывучаецца англійская мова. Тады можна запісацца і на факультатыўныя заняткі з мастацкім ухілам.

### Першамайскі раён:

**Гімназія № 9**

Адрас: вул. Сядых, 10. Тэл.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

Сайт: gymn9.minsk.edu.by.

Паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла. Пры гімназіі дзейнічае музей воінаў-інтэрнацыяналістаў, пры ім працуе гурток «Музейная справа».

Прымаюцца дзеці з прапіскай у Бараўлянах.

Прыём дакументаў у панядзелак і сераду ад 16-й да 20-й, у аўторак, чацвер, пятніцу — ад 9-й да 16-й, у суботу — ад 10-й да 16-й.

**Сярэдняя школа №190**

Адрас: вул. Нікіфарава, 19. Тэл.: (017) 260-24-90.

Сайт: sch190.minsk.edu.by.

Вывучэнне англійскай мовы з трэцяга класа. Навучанне ігры на музычных інструментах з першага класа. Ёсць факультатывы і гурткі спартыўнага, музычнага, творчага накірункаў.

Прыём дакументаў па панядзелках і пятніцах ад 10-й да 14-й, па серадах — ад 16-й да 20-й, па суботах — ад 10-й да 13-й.

### Савецкі раён

**Гімназія №23**

Адрас: пр. Незалежнасці, 45. Тэл.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

Сайт: gymn23.minsk.edu.by.

На высокім узроўні тут выкладаюць англійскую, кітайскую, польскую мову. Дзейнічае народная студыя традыцыйнай творчасці «Жыцень», сярод накірункаў яго дзейнасці народна-абрадавыя святы, народныя рамёствы, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Пры гімназіі створаны музей гісторыі Савецкага раёна г.Мінска.

### Фрунзенскі раён

**Гімназія №4**

Адрас: вул. Кунцаўшчына, 18. Тэл.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

Сайт: gymn4.minsk.edu.by.

У гімназіі з першага класа вывучаецца англійская мова. На факультатыўных занятках вучням прапануецца вывучэнне польскай, нямецкай, французскай моваў як другой замежнай.

У 10—11 класах ажыццяўляецца дыферэнцыяцыя па наступных накірунках: фізіка-матэматычны, хіміка-біялагічны, філалагічны. Працуюць харавы калектыў «Сябрына», цэнтр беларускай нацыянальнай культуры «Сялянская хатка», а таксама музеі этнаграфіі Беларусі і гісторыі гімназіі №4 «Мой родны кут».

Прыём дакументаў па панядзелках, серадах і пятніцах ад 10-й да 14-й, па аўторках і чацвяргах — ад 16-й да 20-й.

**Падрыхтавала Алена Ляшкевіч**

**Дакументы, неабходныя для прыёму ў першы клас:**

1. Заява бацькоў або законных прадстаўнікоў дзіцяці з указаннем мовы навучання.
2. Медыцынская даведка.
3. Арыгінал і копія пасведчання аб нараджэнні дзіцяці.
4. Пашпарт бацькоў або законных прадстаўнікоў дзіцяці і пашпарт дзіцяці (пры яго наяўнасці).

Калі рэгістрацыі ў Мінску няма, прыём дзіцяці трэба ўзгадняць з упраўленнем адукацыі раённай адміністрацыі.

Усе пазначаныя навучальныя ўстановы ў першую чаргу набіраюць дзяцей са свайго мікрараёна і пры наяўнасці вольных месцаў — з іншых.

З іншых гарадоў Беларусі пацверджаная інфармацыя аб наборы ў 1—4 беларускамоўныя класы ў сярэдняй школе №32 у Гродне. Яна знаходзіцца на вуліцы Ліможа, 11 (сайт: http://sch32.grodno.unibel.by). Тэл.: (8 0152) 48-50-48, 43-64-03

Пры школе дзейнічае музей ВАВ.

### Прыватныя абвесткі

**СПАЧУВАННІ**

**Шчырыя спачуванні Вітаўту Мартыненку** з нагоды смерці маці. Сябры і аднадумцы.

**КВАТЭРА**

**Два добранадзейныя хлопцы** здымуць на працяглы тэрмін аднапакаёўку ў Мінску. Т.: (029) 818-36-68.

**Шукаю 1-2-пакаёвую кватэру ў Брэсце** на доўгі тэрмін з тэлефонам і інтэрнэтам. Не п'ю, не палю і паводжу сябе прыстойна. Парадак, адэкватныя паводзіны і своечасовую аплату гарантую. Т.: (029) 865-73-88, (025) 672-51-05. Настасся.

**Маладая жанчына здыме адна-двухпакаёвую кватэру** на працяглы тэрмін (ад года). Можна без мэблі, але з абсталяванай кухняй і магчымасцю ўсталяваць інтэрнэт. Пажаданыя раёны: Лошыца, Серабранка. Разгледжу ўсе варыянты. Т.: (025) 790-98-09.

**ЭМІГРАЦЫЯ**

**Ствараем суполку** для сумеснай падрыхтоўкі да эміграцыі ў Аўстралію. Т.: (025) 988-62-25.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Калона з хлопцаў у касцюмах і дзяўчат у вячэрніх сукенках і на абцасах праехала па Мінску на скутарах.

Выбарчая камісія Зімбабвэ абвясціла Роберта Мугабэ пераможцам прэзідэнцкіх выбараў. Па афіцыйных дадзеных, ён набраў больш за 60% галасоў. Мугабэ, якому 89 гадоў, сёмы раз становіцца прэзідэнтам Зімбабвэ (ад 1987). За часы кіравання Мугабэ дэвальвацыя ў Зімбабвэ склала 321 мільён працэнтаў. У выніку краіна была ўвогуле вымушаная адмовіцца ад сваёй валюты, перайшоўшы на даляр ЗША.

Вулічнае мастацтва ў Віцебску.

АКСАНА РУДОВІЧ

Дзяўчынка едзе ў метро ў татавым берэце. 2 жніўня ў краіне адзначылі Дзень ВДВшніка.

## Анекдоты і жарты

* * *

— Чаму Лукашэнка не лётае на рыбалку на Прыпяць на самалёце?

— Бо прыпяцкія самы такія вялізныя, што ў «Боінг» не ўлазяць.

* * *

Следам за цукеркамі Roshen у Расіі вырашылі ў рэстаранах і кулінарыях забараніць «катлеты па-кіеўску» і «боршч украінскі».

* * *

Леанід Якубовіч прадухіліў ДТЗ крыкам «Аўтааамааааабііііііілльььььььь!!!»

* * *

— Шпіён працаваў кіроўцам-дальнабоем.

— Ну і як яго вылічылі КДБ?

— ДАІ спыніла яго праверыць дакументы, а ў яго ў кабіне грае не Лепс, а Бах.

* * *

Хачу стаць спячай прыгажуняй. Калі прынца не дачакаюся, дык хоць высплюся.

* * *

У мэтах удасканалення медыцынскага абслугоўвання насельніцтва, паляпшэння яго якасці, а таксама павялічэння стабільнасці нашай эканомікі, згодна з указам, замена малочных зубоў на пастаянныя будзе праводзіцца на платнай аснове і з дазволу адміністрацыі раёна.

* * *

Жонка з торбай заходзіць у залу:

— Каханы, гэта вось табе.

Выкладвае з сумкі піва, сушонага сома, ракаў.

— А чаго ты, каханы, футбол не глядзіш? Табе прыгатаваць што-небудзь смачнае?

Муж: Моцна?

Жонка: Не надта: фара, бампер і капот.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У сяле Вастравах Магілёўскай губ.** вучыцелька царкоўна-прыхадской школы чытала ў сябе ў пакойчыку вершы расейскага пісьменніка Бальмонта. У кухні ў гэты час сядзела баба-старажыха і стагнала, бо ёй балелі зубы. Баба думала, што дзяўчына замаўляе ёй зубы, і ўважліва слухала. Праз гадзіну прыходзіць яна да вучыцелькі са слязамі на вачах і дзякуе ёй за ратунак.

— Памагла галубка, саўсім памагла, век буду маліцца на цябе.

Вучыцелька стала адмаўляцца. Але на другі дзень да дзяўчыны сталі прыходзіць іншыя бабы, прасілі, каб замовіла тую ці іншую хваробу, за што абяцалі гасцінца.

**«НН». №32. 1913.**

**АМОН на ліцэістаў.** Улады кінулі амонаўцаў на школьнікаў, якія адстойваюць сваё права вучыцца па-беларуску. «Гэтыя навучэнцы ў гэтым будынку ў гэтых настаўнікаў», — выставілі патрабаванне бацькі.

**«НН». №29. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8012. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 06.08.2013.
Замова №3462.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13029
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12